● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

29 кастрычніка 1996 г. аўторак, № 258 (23061)

# ЗВЯЗДА




## УКАЗ
### ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
№ 442
### АБ МЕРАПРЫЕМСТВАХ ПА ЗАБЕСПЯЧЭННЮ ПАДРЫХТОЎКІ І ПРАВЯДЗЕННЯ РЭСПУБЛІКАНСКАГА РЭФЕРЭНДУМУ 24 ЛІСТАПАДА 1996 Г.

У адпаведнасці з пунктам 1 часткі першай артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і ў мэтах забеспячэння падрыхтоўкі і правядзення рэспубліканскага рэферэндуму 24 лістапада 1996 г. **пастанаўляю:**

1. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

1.1. Забяспечыць своечасовае выдзяленне камісіям па рэферэндуму грашовых сродкаў на падрыхтоўку і правядзенне рэспубліканскага рэферэндуму ў адпаведнасці з размеркаваннем гэтых сродкаў паміж камісіямі, якое ажыццяўляецца ва ўстаноўленым парадку. Пры гэтым на фінансаванне затрат па падрыхтоўцы і правядзенню рэферэндуму ў першую чаргу накіроўваць добраахвотныя ахвяраванні прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, грамадскіх аб'яднанняў, працоўных калектываў, грамадзян Рэспублікі Беларусь;

1.2. Арганізаваць належнае ажыццяўленне міністэрствамі, іншымі цэнтральнымі органамі кіравання, мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі функцый па аказанню садзейнічання камісіям па рэферэндуму ў выкананні ў адпаведнасці з заканадаўствам іх задач;

1.3. Прыняць меры па забеспячэнню належных гарантый рэалізацыі грамадзянамі права на ўдзел у рэферэндуме.

Адказнасць за выкананне гэтага пункта ўскласці персанальна на прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Чыгіра М.М.

2. Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў да 4 лістапада 1996 г. забяспечыць выраб бюлетэняў для галасавання, бланкаў пратаколаў пасяджэнняў камісій па рэферэндуму, спісаў грамадзян, якія маюць права ўдзельнічаць у рэферэндуме, і іншых дакументаў па правядзенню рэферэндуму.

3. Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сумесна з рэдакцыяй газеты «Советская Белоруссия» да 8 лістапада 1996 г. надрукаваць тэкст праекта змяненняў і дапаўненняў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, што выносіцца на рэспубліканскі рэферэндум, тыражом, які прадугледжвае дастаўку названага праекта кожнаму выбаршчыку і па пяць экземпляраў — на кожны выбарчы ўчастак.

Міністэрству сувязі і інфарматыкі 8 лістапада 1996 г. забяспечыць дастаўку названага праекта непасрэдна выбаршчыкам.

4. Міністэрству сувязі і інфарматыкі забяспечыць камісіі па рэферэндуму неабходнымі сродкамі сувязі і сігналізацыі.

5. Мясцовым выканаўчым і распарадчым органам пад асабістую адказнасць іх кіраўнікоў:

аказаць усямернае садзейнічанне камісіям па рэферэндуму ў ажыццяўленні іх паўнамоцтваў, забяспечыць прадастаўленне неабходных для іх работы памяшканняў, абсталявання, транспарта;

стварыць да 9 лістапада 1996 г. усе неабходныя ўмовы для нармальнай работы тэрытарыяльных і ўчастковых камісій па рэферэндуму;

па прапановах камісій па рэферэндуму і просьбах выбаршчыкаў, якія не маюць магчымасці прыбыць на ўчасткі для галасавання, арганізаваць іх дастаўку да гэтых участкаў;

у адпаведнасці з часткай восьмай артыкула 28 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Беларускай ССР» аказаць дапамогу ўчастковым камісіям па рэферэндуму ў арганізацыі галасавання грамадзян, якія не маюць магчымасці прыбыць у дзень рэферэндуму ў памяшканне для галасавання, па месцы знаходжання гэтых грамадзян.

6. Міністэрству ўнутраных спраў:

забяспечыць захаванне грамадскага парадку ў час падрыхтоўкі і правядзення рэспубліканскага рэферэндуму;

арганізаваць па прадстаўленнях камісій па рэферэндуму кругласутачную ахову памяшканняў для галасавання, у тым ліку ахову дакументаў па правядзенню рэферэндуму.

7. Пракуратуры забяспечыць строгае захаванне законнасці пры падрыхтоўцы і правядзенні рэферэндуму, прыняць неабходныя меры па прадухіленню магчымых правапарушэнняў.

8. Камісіям па рэферэндуму забяспечыць падрыхтоўку і правядзенне рэферэндуму 24 лістапада 1996 г. у строгай адпаведнасці з заканадаўствам аб рэферэндуме.

9. Указ уступае ў сілу з моманту яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

28 кастрычніка 1996 г.
г. Мінск .

## ЗВАРОТ
### Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. ЛУКАШЭНКІ да грамадзян краіны

Дарагія суайчыннікі!

**Першы Усебеларускі народны Сход — здзейснены факт сучаснай айчыннай гісторыі. На ім адбылася шчырая, прынцыповая размова па лёсаносных праблемах жыцця краіны.** Адразу рухнулі задумы тых, хто выношваў надзеі на правал Сходу.

Пасланцы беларускага народа ў свабоднай, дэмакратычнай абстаноўцы змаглі выказаць свае думкі і меркаванні па самых вострых пытаннях, якія сёння больш за ўсё хвалююць наша грамадства.

**Сход пераканаўча прадэманстраваў, што ніякія дэструктыўныя сілы не здольныя ўнесці раскол паміж Прэзідэнтам і народам, які выбраў яго.**

Нягледзячы на складанасць і драматызм сітуацыі ў адносінах паміж галінамі ўлады, цяжкасці ў эканоміцы, грамадзяне Беларусі разабраліся хто ёсць хто,—хто верна служыць народу, клапоціцца аб яго дабрабыце, а хто, каб дагадзіць сваім палітычным амбіцыям, уносіць смуту ў грамадства, прагне рэваншу за свае паражэнні ў барацьбе за ўладу. У гэтым яшчэ раз ярка праявіліся мудрасць і празорлівасць беларускага народа. **Толькі яго думка, жаданні і спадзяванні з'яўляюцца для мяне вызначальнымі пры прыняцці самых важных палітычных рашэнняў.**

Удзельнікі першага ў гісторыі Усебеларускага народнага Сходу, якія прадстаўлялі мільёны грамадзян з усіх рэгіёнаў краіны, падтрымалі палітычны курс Прэзідэнта, яго ініцыятыву аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму, змяненні і дапаўненні ў Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, адобрылі прапанаваную Прэзідэнтам Праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця на 1996—2000 гады.

**Як Кіраўнік дзяржавы я ўлічу ў сваёй штодзённай практычнай дзейнасці вынікі ўсенароднага абмеркавання праектаў гэтых дакументаў, канструктыўныя прапановы і крытычныя заўвагі грамадзян, працоўных калектываў, грамадскіх арганізацый, дзяржаўных органаў.**

Народнае веча заклікала мяне прадоўжыць пошук для дасягнення кампрамісу і агульнанацыянальнай згоды, аслабленне і зняцце канфрантацыі ў палітычным жыцці. **Сход пацвердзіў, што здаровыя сілы грамадства ўсёй душой стаяць за захаванне міру і спакою ў краіне, настроены на стваральную работу ў імя будучыні сваіх дзяцей і ўнукаў. Для дасягнення гэтай высакароднай мэты я раблю і буду рабіць усё, што ад мяне залежыць. Поле для кампрамісу яшчэ існуе, і я чакаю сустрэчнага кроку з боку маіх палітычных апанентаў. Мы проста асуджаны жыць у міры і згодзе.** Асуджаны воляй беларускага народа, які, як гэта і запісана ў Канстытуцыі, з'яўляецца адзінай крыніцай дзяржаўнай улады.

**Пры гэтым хачу заявіць, што як гарант Канстытуцыі, дзейнічаючы выключна ў рамках Закону, нікому не дазволю перашкодзіць волевыяўленню народа, нагнятаць абстаноўку ў краіне, уносіць раскол у грамадства—ні палітычным партыям, ні іх лідэрам, ні органам дзяржаўнай улады. Любыя правакацыі палітычных авантурыстаў і дэструктыўных сіл атрымаюць рашучы адпор.**

У гушчы народа ўжо даўно выспела імкненне разам, усёй грамадой пераадолець цяперашнія цяжкасці. **І я веру, што ў сем'і прыйдуць дабрабыт і дастатак, мір і спакой назаўсёды запануюць у нашым агульным доме—роднай, цудоўнай Беларусі.**

**Толькі народ мае права вырашаць свой лёс!**

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

## ТЭЛЕГРАМА КАРАЛЯ ІСПАНІІ

***Яго Правасхадзіцельству Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Рыгоравічу ЛУКАШЭНКУ***

Вяртаючыся пасля свайго афіцыйнага візіту ў Рэспубліку Карэя і пралятаючы над тэрыторыяй Рэспублікі Беларусь, я хачу перадаць Вашаму Правасхадзіцельству свае шчырыя пажаданні асабістага шчасця, а народу Беларусі — дабрабыту і працвітання.

З самымі цёплымі прывітаннямі,

**ХУАН КАРЛАС І.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## Трагедыя ў Пячах

**26 кастрычніка ваенная пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу па факту надзвычайнага здарэння ў Пячах. Там загінула адразу 7 чалавек, 7 салдат. Юнакі, для якіх «запах пораху» асацыіраваўся з паведамленнямі з Чачні і іншых «гарачых кропак», страцілі жыццё ў мірнай Беларусі.**

Каб даведацца аб падрабязнасцях трагедыі, карэспандэнт «Звязды» звязаўся з Іванам Міхалевічам, пракурорам Барысаўскага гарнізона, які непасрэдна займаецца гэтай справай і 26 кастрычніка пабываў на месцы здарэння...

У суботу, як звычайна, 11 чалавек асабовага саставу вайсковай часці выконвалі задачу па нарыхтоўцы дроў. Калі вайсковы «Урал» быў загружаны бярвёнамі, аўтамабіль накіраваўся назад у часць. І ўсё было б добра, калі б не злашчасная выбоіна на дарозе, якая цягнецца ад вышкі танкадрома, і якую разбіла тэхніка якраз побач з вададромам (месцам, дзе танкі пераадольваюць водную перашкоду). Вадзіцель машыны, малодшы сяржант Родзін, вырашыў аб'ехаць выбоіну, узяў улева і не разлічыў адлегласці да вададрома. Машына, нібыта адчуўшы разгубленасць вадзіцеля, імкліва накіравалася да рова, спаўзла ў ваду і перакулілася. Выратавацца ўдалося толькі 4 чалавекам: успелі выскачыць з машыны вадзіцель, старшы прапаршчык і два салдаты з кузава. Сямёра ж радавых беларускай арміі вададром не выпусціў са сваіх шчыльных абдымкаў. С. Салагуб, А. Сазанкоў, М. Дралаў, Д. Шутко, А. Замайловіч, Р. Горныш і П. Мокарт — радавыя, якія ўжо не вернуцца дадому пасля праходжання службы жывымі.

Паводле папярэдняй інфармацыі, якой учора валодала газета, трагедыя здарылася з-за службовага парушэння старэйшага прапаршчыка Абрамовіча, які насуперак патрабаванням тэхнікі бяспекі дазволіў салдатам ехаць у кузаве машыны загружанай дрывамі. Замест таго, каб адправіць салдат пешшу ад месца складзіравання дроў, якое знаходзіцца ў 4 км ад часці, да месца дыслакацыі або адправіць за імі свабодную машыну, прапаршчык вырашыў усё па- свойму. Зараз, дарэчы, ваеннай пракуратурай вядзецца следства, допытваюцца прапаршчык, вадзіцель, салдаты, высвятляюцца абставіны трагедыі. У выпадку з'яўлення новых фактаў газета праінфармуе аб іх сваіх чытачоў.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**



*Гэтыя жанчыны – валожынскія паштальёнкі, ім добра вядомы не толькі адрас кожнага дома, але і жыхара кожнай кватэры.*

*На першы погляд, іх справа здаецца лёгкаю. Але вельмі няпроста ў любое надвор'е зноў і зноў адмяраць кіламетры паміж поштаю і падпісчыкамі. Няпроста часам растлумачваць маламаёмым старым, чаму ім сталі не па кішэні многія газеты і часопісы. Працуючы з людзьмі, паштальён першы распавядае ім навіны, спачувае ў бядзе, падзяляе радасць у доме.*

*Прыемна адзначыць, што кожнай дзесятай з ліку дастаўляемых валожынскімі паштальёнкамі газет з'яўляецца наша газета. «Звязда» ў Валожыне ўпэўнена пашырае кола сваіх падпісчыкаў.*

***На здымку:** паштальёнкі **В. Пілецкая, Т. Шакун, А. Мышлён, Р. Бурачэўская. С. Нялюб, З. Цімановіч**, арганізатар дастаўкі **С. Мураўская**.*

*Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.*

## ПАСТАНОВА
### КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
№ 681
### АБ ПЕРАНОСЕ РАБОЧАГА ДНЯ

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь **ПАСТАНАЎЛЯЕ:**

Перанесці рабочы дзень з пятніцы, 8 лістапада, на суботу, 16 лістапада 1996 г.

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь М.ЧЫГІР.**

25 кастрычніка 1996 г., г.Мінск.





# З РАСКІДАНЫХ НЕКАЛІ «КАМЕННЯЎ» МОЖНА СКЛАСЦІ ФУНДАМЕНТ РЭГІЯНАЛЬНАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА

Дэлегацыя Краснадарскага края, якую ўзначальвае кіраўнік адміністрацыі гэтага рэгіёна Мікалай Ягораў, знаходзілася 26 кастрычніка ў Мінску. Адразу ж пасля прыбыцця ў беларускую сталіцу гасцей прыняў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка.

Як Старшыня Вышэйшага Савета Супольніцтва Беларусі і Расіі Аляксандр Лукашэнка праінфармаваў губернатара края аб сваіх сустрэчах з прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным і прэм'ер-міністрам Віктарам Чарнамырдзіным і аб праблемах, якія былі абмеркаваны на вышэйшым узроўні. Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што шырокія кантакты паміж Беларуссю і Расіяй на міждзяржаўным узроўні ўстаноўлены. Цяпер трэба расшыраць міжрэгіянальнае супрацоўніцтва.

Ідэя міжрэгіянальнага супрацоўніцтва была падтрымана членамі краснадарскай дэлегацыі. У прыватнасці, Мікалай Ягораў падкрэсліў, што падпісаны ў сакавіку гэтага года паміж нашымі краінамі дагавор адкрывае вялікія магчымасці для аб'яднальных працэсаў, у першую чаргу, на аснове эканамічных інтарэсаў. Губернатар адзначыў, што Кубань зацікаўлена ва ўстанаўленні прамых кантактаў з беларускімі вытворцамі. Як вядома, край славіцца сваёй сельскагаспадарчай прадукцыяй. А атрымаць добры ўраджай без сучаснай тэхнікі практычна немагчыма. Вось чаму ў ходзе гутаркі асаблівая ўвага была ўдзелена стварэнню сумесных вытворчасцей па выпуску колавых трактароў, аўтамабіляў, будаўніча-аддзелачных матэрыялаў, расшырэнню паставак беларускай тэхнікі.

Што ж датычыць магчымасцей Краснадарскага края, які, паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, з'яўляецца «душой Расіі», то гэты рэгіён можа пастаўляць у нашу рэспубліку шэраг сельгаспрадуктаў, драўніну унікальных парод для беларускай мэблевай прамысловасці, мармур для будаўніцтва Мінскага метро, які цяпер завозіцца з Грэцыі і Узбекістана і патрабуе пры транспарціроўцы вялікіх выдаткаў.

На сустрэчы была дасягнута дамоўленасць аб адкрыцці ў снежні бягучага года ў кубанскай сталіцы выстаўкі-продажу беларускай сельскагаспадарчай тэхнікі. Наступным крокам супрацоўніцтва будзе адкрыццё Беларускага гандлёвага дома ў Краснадары і Краснадарскага — у Мінску.

У час гутаркі Прэзідэнт і губернатар абмеркавалі таксама магчымасці супрацоўніцтва ў сферы адпачынку, расшырэння кантактаў у галіне культуры.

У той жа дзень прайшлі перамовы дэлегацыі Краснадарскага края з прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгірам. Гаворачы аб зацікаўленасці беларускага ўрада ў расшырэнні міжрэгіянальных кантактаў, кіраўнік Кабінета Міністраў заявіў, што гэта пазіцыя знайшла падтрымку і ў першага віцэ-прэм'ера Расіі Аляксея Бальшакова. Міхаіл Чыгір адзначыў, што, нягледзячы на цяжкасці, у рэспубліцы захаваны прамысловы патэнцыял і таму беларускі бок зацікаўлены ў супрацоўніцтве ў гэтай галіне. Паводле слоў прэм'ера, праходзіць «мёртвы сезон» і ў сельскай гаспадарцы, што, несумненна, таксама будзе садзейнічаць расшырэнню ўзаемных кантактаў і прамых сувязей.

Як адзначыў кіраўнік адміністрацыі Краснадарскага края, час раскідвання камянёў адыходзіць у мінулае. Таму вельмі важна, лічыць Мікалай Ягораў, каб цяпер гэтыя камяні былі закладзены ў фундамент узаемавыгаднага супрацоўніцтва.

Паводле вынікаў перамоў бакі падпісалі шэраг дакументаў. Міхаіл Чыгір і Мікалай Ягораў паставілі свае подпісы пад пратаколам сустрэчы. Падпісаны пагадненні аб супрацоўніцтве паміж Мінскім аблвыканкомам і адміністрацыяй Краснадарскага края, а таксама паміж гандлёва-прамысловымі палатамі Беларусі і Краснадарскага края.

Канкрэтныя дамоўленасці аб паглыбленні міжрэгіянальнага супрацоўніцтва - не адзіны вынік праведзеных у беларускай сталіцы перамоў. Гэта сустрэча дае шанц нашай рэспубліцы за кошт паставак беларускай тэхнікі ліквідаваць частку запазычанасцей Расіі за газ. Бакі, напрыклад, падпісалі Пагадненне аб пастаўках на Кубань з Беларусі сельскагаспадарчай тэхнікі на 30 мільярдаў расійскіх рублёў. Паводле слоў Міхаіла Чыгіра, цяпер рэспубліка плаціць за энерганосьбіты 50—60 працэнтаў ад агульнага аб'ёму паставак газу. Таму наш доўг расійскім газавікам расце. У той жа час расійскае акцыянернае таварыства «Газпром» завінавацілася ў федэральны бюджэт Расіі, у тым ліку Краснадарскаму краю — у фонд падтрымкі сельскагаспадарчых вытворцаў. Падпісаўшы пагадненне на пастаўку тэхнікі, Беларусь, з аднаго боку, зможа скараціць рэшткі гатовай прадукцыі на беларускіх прадпрыемствах, з другога — пакрыць частку даўгоў за газ.

Паводле слоў беларускага прэм'ера, гэта здзелка выгадная як для расійскага, так і для беларускага боку. І калі гэта схема будзе належным чынам адпрацавана на прыкладзе Краснадарскага края, атрыманы вопыт можна будзе выкарыстоўваць пры супрацоўніцтве з іншымі рэгіёнамі Расіі.

**Ларыса ЛАЗАР,**
**БЕЛТА.**

## ПРЭЗІДЭНТ ВЫСТУПІЦЬ НА КАНФЕРЭНЦЫІ БЕЛАРУСКАЙ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ ВЕТЭРАНАЎ

29 кастрычніка ў сталічным Палацы культуры ветэранаў адбудзецца чацвёртая канферэнцыя Беларускай рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў вайны, працы, Узброеных Сіл і праваахоўных органаў. Як паведамілі ў аргкамітэце канферэнцыі, Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку накіравана запрашэнне прыняць у ёй удзел, і кіраўнік дзяржавы адказаў згодай. Мяркуецца таксама, што Прэзідэнт выступіць перад ветэранамі з прамовай.

**БЕЛТА.**

## СІТУАЦЫЮ ВАКОЛ «НАРОДНАЙ ГАЗЕТЫ» ПАВІНЕН ВЫРАШЫЦЬ ЗАКОН

З заявай у адказ на зварот супрацоўнікаў «Народнай газеты» выступіў 28 кастрычніка Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі. У дакуменце, накіраваным калектыву гэтага друкаванага выдання, кіраўнік парламента выказаў занепакоенасць у сувязі з развіццём сітуацыі вакол «Народнай газеты».

Прычынай узнікшага канфлікту, на думку Сямёна Шарэцкага, з'яўляецца «шэраг незаконных дзеянняў па змене галоўных рэдактараў газеты ў апошнія паўтара года». Старшыня беларускага парламента напомніў у гэтай сувязі, што назначэнне галоўнага рэдактара «Народнай газеты», у адпаведнасці з Законам «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі», з'яўляецца прэрагатывай Вярхоўнага Савета. Значыць, адзначыў Сямён Шарэцкі, адзіным законным галоўным рэдактарам гэтай газеты можа быць толькі Леанід Юнчык, зацверджаны на гэту пасаду пастановай Вярхоўнага Савета ад 11 ліпеня 1996 года.

«У сувязі са зваротам калектыву рэдакцыі «Народнай газеты» запэўніваю; што Вярхоўны Савет будзе да канца адстойваць законнасць і правы членаў працоўнага калектыву газеты, заснавальнікам якой ён з'яўляецца», — гаворыцца ў заяве Старшыні Вярхоўнага Савета.

**БЕЛТА.**

## *Яго Правасхадзіцельству Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку*

Ваша Правасхадзіцельства,

Я ўважліва прачытаў Ваша пісьмо ад 7 жніўня сёлетняга года і поўнасцю згодны з вашай ацэнкай узроўню развіцця адносінаў паміж Кітаем і Беларуссю. Пасля ўстанаўлення дыпламатычных адносінаў, дзякуючы агульным намаганням кіраўнікоў дзвюх краін, кітайска-беларускія адносіны дружбы і супрацоўніцтва пачалі дынамічна развівацца ва ўсіх галінах, устаноўлена добрае супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі і ў міжнародных справах. На сесіі камісіі ААН па правах чалавека сёлетняга года Ваша дзяржава падтрымала Кітай. У сваім пісьме Вы зноў пацвердзілі далейшую падтрымку Кітая ў пытанні правоў чалавека, што з'яўляецца жывым адлюстраваннем дружбы і даверу паміж Кітаем і Беларуссю. Кітайскі бок шчыра спадзяецца, што кітайска-беларускія адносіны дружбы і супрацоўніцтва будуць далей умацоўвацца і паглыбляцца на аснове ўзаемнай павагі, роўнасці і ўзаемнай выгады.

Цаню выкладзеную ў Вашым пасланні прынцыповую пазіцыю Вашага ўрада па тайваньскаму пытанню, у прыватнасці, абяцанне не ўстанаўліваць з Тайванем «міждзяржаўных афіцыйных адносінаў». У сувязі з гэтым хачу падкрэсліць, што тайваньскае пытанне — гэта выключна ўнутраная справа Кітая і вялікае прынцыповае пытанне, якое датычыць суверэнітэту, тэрытарыяльнай цэласнасці і справы аб'яднання Кітая, што закранае нацыянальнае пачуццё 1,2-мільярднага кітайскага народа. Пакончыць са становішчам раз'яднання двух берагоў Тайваньскага праліва, завяршыць вялікую справу ўз'яднання Радзімы — такая высокая місія і агульная надзея ўсяго кітайскага народа, уключаючы і тайваньскіх суайчыннікаў. Кітайскі ўрад і народ рашуча выступаюць супраць любых спроб, накіраваных на стварэнне «двух Кітаяў» або «аднаго Кітая, аднаго Тайваня». Упэўнены, што Ваш урад з разуменнем і вялікай увагай паставіцца да нашай заклапочанасці ў тайваньскім пытанні, строга прытрымліваючыся пазіцыі «аднаго Кітая», не будзе ўстанаўліваць ніякіх афіцыйных кантактаў з Тайванем, каб на развіццё кітайска-беларускіх адносінаў не было зроблена негатыўнага ўплыву.

Абмен візітамі кіраўнікоў дзвюх краін мае вельмі важнае значэнне для паглыблення ўзаемаразумення і даверу. Я высока ацэньваю вынікі візіту Вашага Правасхадзіцельства ў Кітай і візіту прэм'ера Лі Пэна ў Вашу краіну. Дзякую, Ваша Правасхадзіцельства, за ветлівае запрашэнне з надзеяй у зручны час наведаць Вашу цудоўную краіну.

З найлепшымі пажаданнямі!

**Старшыня Кітайскай Народнай Рэспублікі**
**Цзян Цзэмінь.**

## *Калектыву рэдакцыі часопіса «Наш Современник»*

Дарагія расійскія сябры!

Ад усяго сэрца віншую вас з 40-годдзем часопіса, які адыграў выдатную ролю ў фарміраванні нацыянальнай патрыятычнай свядомасці дзесяткаў мільёнаў грамадзян вялікай краіны, у станаўленні і развіцці літаратуры, што нясе ўсяму свету ідэі сапраўднага гуманізму, дэмакратыі, дружбы паміж народамі, адзінства славян, якія здольны ўнесці новы ўклад у развіццё цывілізацыі будучыні.

Асабліва ўдзячны рэдакцыі і аўтарам часопіса за шчырую падтрымку незалежнай і суверэннай Беларусі ў яе імкненні захаваць, умацаваць і развіць шматвяковыя традыцыі беларуска-расійскага брацтва, якія замацаваны цяпер Дагаворам аб стварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі.

Як шматгадовы чытач вашага папулярнага часопіса, не магу не адзначыць яго высокі прафесіянальны ўзровень і дабратворны ўплыў на творчасць многіх вядомых дзеячаў беларускай культуры, якія трывала стаяць на пазіцыях сабornасці славянства, дзяржаўнасці і патрыятызму.

Жадаю ўсім вам і вашым аўтарам моцнага здароўя, упартасці, стойкасці і натхнення ў высакароднай працы на карысць Расіі, у імя росквіту вялікай культуры славянскіх народаў.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

*ВЫБАРЫ*

# Здань камунізму пакідае прасторы былога СССР?

**24 лістапада прыблізна трэць беларускіх выбаршчыкаў, прыйшоўшы галасаваць, разам з бюлетэнем для рэферэндуму атрымаюць выбарчы бюлетэнь з імёнамі кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета. Перадвыбарная кампанія хоць і непрыметна, і вяла, і без значнай грамадскай цікавасці — усё ж ідзе. На мінулым тыдні яна пераадолела чарговы важны рубеж — завяршылася рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты.**

Цяпер пачынаецца чарговы — найбольш відовішчны і займальны этап кампаніі: з агітацыйнымі лістоўкамі ў паштовых скрынках, плакатамі на сценах і пікетамі на вуліцах.

Зразумела, такой актыўнасці, як летась, ад патэнцыяльных парламентарыяў чакаць сёлета не выпадае. Адбітак няпэўнасці і хісткасці ляжыць сёння на ўсім, што звязана з Вярхоўным Саветам. У выпадку, калі на рэферэндуме Прэзідэнту ўдасца дабіцца зацвярджэння свайго праекта Канстытуцыі, сітуацыя з выбарамі ўвогуле заблытаецца. Незразумела будзе: у які заканадаўчы орган — стары (Вярхоўны Савет) ці новы (Нацыянальны Сход) — выбралі мы дэпутатаў. І як быць з паўторным галасаваннем, якое, несумненна, спатрэбіцца ў большасці акруг, паколькі 24 лістапада выбары наўрад ці выявяць значную колькасць абсалютных пераможцаў, што з першага заходу атрымаюць дэпутацкія мандаты.

Адсутнасць ажыятажу вакол барацьбы за парламенцкія крэслы тлумачыцца і яшчэ адной важнай акалічнасцю. За апошнія два з паловай гады статус, роля і грамадскае прызнанне дэпутата Вярхоўнага Савета і яго працы зведалі вялізныя перапады. З 1991 па 1994 гады, калі Беларусь пасля крушэння КПСС ператварылася ў парламенцкую рэспубліку, дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га склікання адчулі на сабе ўсю паўнату дзяржаўнай улады і звязаныя з гэтым перавагі. Штодзённыя шматгадзінныя радыё- і тэлетрансляцыі ператварылі многіх парламентарыяў таго перыяду ў палітычных зорак і сталі для іх трамплінам у светлую ўладную будучыню. Вярхоўны Савет быў адзіным і галоўным цэнтрам, вакол якога віравала палітычнае жыццё. Усведамляючы ўласную дзяржаўную значнасць, тагачасныя дэпутаты ледзь не штомесяц усчыналі спробы адклікаць з пасады кіраўніка дзяржавы — старшыню ВС. (Урэшце ў студзені 1994 года адна з такіх спроб удалася.) Любы дэпутат таго склікання меў самы шырокі доступ ва ўрад і асабіста да Вячаслава Францавіча, чым парламентарыі актыўна карысталіся і лабіравалі ўласныя і чужыя інтарэсы.

Тым, мінулым правам і перавагам дэпутаты самі падпісалі прыгавор 15 сакавіка 1994 года, прыняўшы новую Канстытуцыю. Стварыўшы новы магутны цэнтр улады, дэпутаты ўрэшце самі і сталі яго ахвярай. Праўда, зразумелі яны ўласныя заканадаўчыя хібы значна пазней — пасля таго, як ад іх адабралі спачатку будынак з аўтабазай, потым прывілеі, ільготы і недатыкальнасць, яшчэ пазней — тэлебачанне і радыё.

На працягу мінулых двух гадоў парламенцкае крэсла паступова ператварылася з месца ва ўсіх адносінах утульнага, ганаровага і сытнага — у пасаду мулкую, палітычна рызыкоўную і ў матэрыяльным плане няўдзячную. А пасля таго, як парламенцкая большасць знайшла ў сабе сілы прыняць выклік выканаўчай «вертыкалі» і ўступіць у сур'ёзны паядынак за ўладу — гэта пасада і ўвогуле стала небяспечнай, паколькі патрабуе пэўнай палітычнай мужнасці.

Таму не даводзіцца здзіўляцца, што якасны і колькасны састаў прэтэндэнтаў на дэпутацкія крэслы сёлета зусім іншы, чым у 1995 годзе. Зрэшты, усе асноўныя палітычныя партыі (у тым ліку Народны фронт, які да апошняга часу адмаўляў свой удзел у гэтых выбарах) у барацьбу за вакантныя дэпутацкія мандаты (хоць і без ранейшага імпэту) — уключыліся.

Якія сілы маюць найбольшыя шанцы на поспех? Яшчэ год таму адказ на гэта пытанне быў відавочным. Аднак на працягу 1996 года на прасторах былога СССР у грамадскай свядомасці пачаў адбывацца для многіх нечаканы, але заканамерны зрух — людзі сталі адварочвацца ад камуністаў і іх саюзнікаў.

Яскравыя ілюстрацыі гэтых настрояў — правал лідэра КПРФ Генадзя Зюганава на прэзідэнцкіх выбарах у Расіі і самы свежы прыклад — ашаламляльнае паражэнне літоўскіх посткамуністаў — Дэмакратычнай партыі працы — на парламенцкіх выбарах у нашых паўночных суседзяў. Партыя былога першага сакратара ЦК КПЛ — КПСС і цяперашняга Прэзідэнта Літоўскай Рэспублікі Альгірдаса Бразаўскаса прыйшла да ўлады ў 1992 годзе пад лозунгамі адмаўлення ідэй «Саюдзіса» і абяцання вярнуць сацыяльныя заваёвы. За чатыры гады літоўцы расчараваліся ў шчодрых на абяцанні «левых», якія замест рэальных рэформаў зацягнулі ў краіне паласу бязладдзя і неразбярыхі.

Да ўлады ў Літве вяртаюцца «правыя». Хоць канчатковыя вынікі стануць вядомы толькі пасля другога тура выбараў, ужо сёння відавочна, што на чале кіруючай кааліцыі будзе партыя Вітаўтаса Ландсбергіса — Саюз «Бацькаўшчына», якая ў першым туры набрала найбольшую колькасць галасоў — 29 працэнтаў. (Для параўнання: у ДПП — 8 працэнтаў.)

Наўрад ці Беларусь з'яўляецца выключэннем і наўрад ці беларусы гатовы бясконца верыць «левым» лідэрам і «левым» рухам. Відавочна, што шанцы партый правацэнтрысцкай арыентацыі на лістападаўскіх выбарах значна вышэйшыя, чым год таму. І ў канцы года — калі толькі Вярхоўнаму Савету суджана застацца ў цяперашнім выглядзе — мы можам атрымаць зусім іншы парламент, з намнога больш моцным дэмакратычным крылом.

**Валянцін ЖДАНКО.**

*ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

### БЫЛЫ НАЧАЛЬНІК СЛУЖБЫ АХОВЫ ПРЭЗІДЭНТА РАСІІ Ў НЯМІЛАСЦІ

Барыс Ельцын падпісаў распараджэнне, у якім кіраўніку Федэральнай службы аховы даручана прадставіць матэрыялы для звальнення з ваеннай службы Аляксандра Каржакова. У дакуменце адзначаецца, што генерал-лейтэнант Каржакоў пасля вызвалення ад пасады начальніка Службы аховы прэзідэнта выступіў з шэрагам паклёпніцкіх заяў у адрас прэзідэнта Расіі і членаў яго сям'і, а таксама выдаў канфідэнцыяльную інфармацыю, якая яму стала вядома ў сувязі з выкананнем службовых абавязкаў.

### ТУРКМЕНІСТАН ЗА 5 ГАДОЎ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ ДАБІЎСЯ ГАЛОЎНАГА — АФІЦЫЯЛЬНАГА ПРЫЗНАННЯ Ў СВЕЦЕ

Пятую гадавіну незалежнасці сваёй дзяржавы адзначыў народ Туркменістана. За 5 гадоў завяршыўся працэс стварэння грамадскага і дзяржаўнага інстытутаў, акрэслілася знешнепалітычная лінія. Абвешчаная Туркменістанам палітыка пастаяннага нейтралітэту атрымала афіцыяльнае прызнанне сусветнай супольнасці. Характар дзелавога партнёрства атрымала супрацоўніцтва з Іракам, Пакістанам, Турцыяй, Расіяй.

### ТАЛІБЫ НА ЎВОД МІРАТВОРЧЫХ СІЛ ААН У АФГАНІСТАН НЕ ЗГАДЗІЛІСЯ

Прадстаўнік генерала Рашыда Дустума, які кантралюе практычна ўсю поўнач Афганістана, заявіў, што яго бок валодае доказамі прамой падтрымкі руху «Талібан» з боку Пакістана. Ён таксама зазначыў, што перамовы аб спыненні агню былі сарваны талібамі. У сваю чаргу кіраўніцтва руху «Талібан» абнародавала заяву наконт таго, што гатова да перамоў пры ўмове перспектыў стварэння сапраўды ісламскага ўрада. Пры гэтым лідэры талібаў адхілілі патрабаванне прэзідэнта Рабані і генерала Дустума аддаць Кабул пад кантроль міжнародных сіл пад эгідай ААН. Такім чынам, яны ігнаравалі галоўную ўмову сваіх сапернікаў пры стварэнні кааліцыйнага ўрада на шырокай падставе. Урадавыя войскі пад камандаваннем шах Масуда працягваюць марудна, але ўпэўнена прасоўвацца да Кабула.

### ПРЭЗІДЭНТУ ЗША НЕ ЎДАЛОСЯ ПРЫМІРЫЦЬ НЕТАНІЯГУ І АРАФАТА

Спроба Біла Клінтана асабіста выратаваць палесціна-ізраільскі дыялог закончылася нічым. Прэм'ер Ізраіля Нетаніягу і лідэр палесцінцаў Арафат працягваюць абвінавачваць адзін аднаго ў нежаданні ісці на ўступкі, і селекцыйныя размовы з Клінтанам мала што змянілі. Палесціна-ізраільская сустрэча, на якой настойваў амерыканскі прэзідэнт, так і не адбылася.

### ПЕРАСЯЛЕНЦАЎ ДОМА НЕ ЧАКАЮЦЬ

Серыю ўзрываў і падпалаў дамоў, якія пакінулі ўцекачы, ажыццявілі сербскія і харвацкія экстрэмісты ў Босніі і Герцагавіне, каб не дапусціць вяртання перасяленцаў у родныя мясціны. На працягу некалькіх апошніх дзён атрады сербаў, якія маюць узрыўчатку, учынілі набегі на чатыры харвацкія вёскі. У адказ харваты спалілі 65 дамоў у раёне, які кантралююць сербы. Паводле папярэдніх даных, у ходзе інцыдэнту ніхто не пацярпеў.

### СТРАСЦІ ВАКОЛ ДЗІЯНЫ НЕ СЦІХАЮЦЬ

Перад складаным выбарам зноў апынулася Дзіяна. Калі ў былой жонкі наследніка брытанскага прастола раптам узнікнуць складанасці ў сувязі з тым, як патраціць атрыманыя ў выніку разводу сродкі, то першая сур'ёзная магчымасць для гэтага ў яе ўжо з'явілася. Яна зможа купіць любоўныя лісты, дакладней, вярнуць свае ўласныя прызнанні, якія зрабіла ў хвіліны захаплення. У пісьмовай форме прынцэса адкрылася ў свой час гвардзейскаму афіцэру Хэвіту і той захаваў гэтыя сведчанні палкіх пачуццяў. Хоць ён і запэўніў, што не збіраецца прадаваць іх, прапанаваная двума амерыканскімі калекцыянерамі сума пахіснула яго ўпэўненасць. Па чутках, сама каралева гатова купіць скандальныя пасланні, каб абараніць рэпутацыю каралеўскага дома.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС».**

# КІРМАШ



## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 40 (59)






## РОЗНАЕ

■ Танная і высакаякасная здымка на ВІДЭА шлюбаў і юбілеяў з шэрагам спецэфектаў, а для арганізацый — рэкламнага роліка, відэакліпа.
*Тэл. у Ляхавіцкім раёне (8-01633) 5-13-13 з 20.00.*

■ Куплю трактар «МТЗ» у любым выглядзе.
*г. Барысаў, тэл. 7-86-59.*

■ Мяняю дом 7х10 у г. Косаве Брэсцкай вобл. (участак 20 сотак, прыродны газ, водаправод, надворныя пабудовы) на кватэру ў Мінску альбо прадам.
*Тэл. (8-017) 253-89-93.*

■ Вышлю 2-томнік сачыненняў Лермантава, самавучыцель машынапісу, пласцінку Р. Ларэці, усё ў выдатным стане. Прышліце канверт з вашым адрасам, купон «Звязды» па адрасу: *223310, Беразіно, п/с 681034.*

■ Куплю інструменты для духавога аркестра, можна б/к.
*Тэл. 293-41-16.*

■ Аказваем аўдытарскія паслугі.
*Тэл. 227-94-46.*

■ Праца дома.
*Пісаць: 224002, Брэст, Паўднёвы Гарадок, д. 339, кв. 74. Юха Уладу (для адказу – канверт).*

■ Перамотка электрарухавікоў, прадаю цэглу, цэны нізкія, г. Мінск.
*Тэл.: 254-09-61, 241-35-49.*

■ Работа на даму, прышліце 1 чысты канверт і 1 канверт з адрасам, 1 купон для аб'явы.
*Пісаць: 223310, Беразіно, п/с 681034.*

■ Мяняю 2-пакаёвую кватэру ў Ваўкавыску на 1- ці 2-пакаёвую ў Мінску ці прыгарадзе.
*Тэл.: (8-223) 52-7-10, (8-01512) 25-5-64.*

■ Складаю індывідуальныя псіхалагічныя гараскопы па даце і часу нараджэння.
*Тэл. 239-77-61.*

■ Мяняю дом (60 кв. м з гаспадарчымі пабудовамі, участак 40 сотак, прыродны газ) у Рэчыцкім раёне на кватэру ў Магілёве.
*г. Магілёў, тэл. 41-40-27.*

## «ТУРЦЫЯ-96» — ВАЖНЫ КРОК У РАЗВІЦЦІ ДЗЕЛАВЫХ СУВЯЗЕЙ

**Канец мінулага і гэты тыдзень так ці інакш звязаны з Турцыяй. 24 кастрычніка яе пасольства адзначыла пераезд у новае памяшканне ў цэнтры Мінска па вул. Валадарскага, д. 6. 25-га адкрылася нацыянальная выстаўка Турцыі. А 29-га ўсе туркі, якія зараз знаходзяцца ў нас, будуць разам з беларускімі сябрамі святкаваць Дзень абвяшчэння Рэспублікі Турцыя.**

Але, безумоўна, галоўная турэцкая падзея, калі можна так сказаць, — выстаўка. Турцыя ўпершыню праводзіць у нас такое буйное і адказнае мерапрыемства.

Дарэчы, за гады пасля набыцця Беларуссю незалежнасці ў Мінску адбылося не так ужо і шмат нацыянальных выставак. Іх літаральна можна па пальцах пералічыць. І кожная, без перабольшання, стала магутным імпульсам для пашырэння і паглыблення дзелавога супрацоўніцтва.

Менавіта на гэта і разлічваюць арганізатары выстаўкі — турэцкая фірма «Цюркель». Падобныя выстаўкі ўжо адбыліся ў Маскве, Кіеве, Вільнюсе, Санкт-Пецярбургу. У Мінск 56 турэцкіх фірмаў прывезлі багатую і разнастайную экспазіцыю: адзенне, абутак, вырабы са скуры і футра, касметыку і парфюмерыю, мэблю, аўтазапчасткі, хлебапякарні, тканіны, цацкі, электрапрыборы, тавары для дома і многае іншае.

І яшчэ з адной, агульнай для турэцкіх фірмаў, мэтай прыехалі прадпрымальнікі гэтай краіны: пераламаць негатыўнае меркаванне аб турэцкіх вырабах як няякасных.

— Няхай наведвальнікі на свае вочы пераканаюцца ў якасных вартасцях нашай прадукцыі, — гаворыць галоўны гандлёвы саветнік пасольства Турцыі Хасан Шэхердзі.

На яго думку, гандлёвы абарот паміж дзвюма краінамі, які складае каля 30 мільёнаў долараў, далёка не адпавядае эканамічнаму патэнцыялу абедзвюх краін. Прычына банальная: у Турцыі мала ведаюць магчымасці Беларусі, а ў нас не валодаюць дастатковай інфармацыяй пра Турцыю. І выстаўка заклікана прарваць гэту своеасаблівую інфармацыйную блакаду і дапамагчы наладзіць прамы, без пасрэднікаў, гандаль. Бо, паводле даных турэцкага боку, прыкладна 70 працэнтаў тавараў з гэтай краіны паступае ў Беларусь праз трэція, еўрапейскія дзяржавы. А гэта моцна адбіваецца на цане тавару — яна рэзка ўзрастае. Таму ёсць сэнс і вялікая выгада працаваць напрамую.

Як ужо паведамлялася, Турцыя прадаставіла Беларусі крэдыт у памеры 20 мільёнаў долараў. Па словах Хасана Шэкерджы, у бліжэйшы час будзе праведзены шэраг афіцыйных сустрэч, мэта якіх — разгледзець шляхі выкарыстання гэтага крэдыту. Для гэтага, а таксама абмеркавання праблематыкі развіцця гандлю, экспарту-імпарту, інвестыцый у Беларусь у Мінск прыязджае вялікая дэлегацыя з Турцыі.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**



## АСАБІСТАЕ ЖАЦЦЁ

**Аб. № 216.** Маладая прывабная жанчына, 34 гады, сярэдняга росту. *Жыве ў вёсцы з дзецьмі, мае ўсё неабходнае для жыцця: дом, гаспадарчыя пабудовы, участак зямлі 0,50 га.*

**Аб. № 217.** Я, 52/185, шукаю стройную жанчыну, згодную на пераезд да мяне.
*231400 Навагрудак, д/з-VIII-OK № 5217-94.*

**Аб. № 218.** 37/175. Рыба. Пазнаёмлюся з жанчынай, згоднай на пераезд у вёску.
*223408, Мінская вобл., Уздзенскі раён, п/а Войкава. Да запатрабавання п/п IV-ВН № 543040.*



## ВІНШУЕМ!

*Віншуем з юбілеем* ***Ганну ЧЫСТАП'ЯНАВУ.*** *Ад усяго сэрца жадаем шчасця, каб ніколі не ведала бяды, каб прыгожа пражыла яшчэ шмат гадоў і заставалася такой жа прывабнай.*
**Тамара і Ала,** *г. Клецк.*

*Віншуем дарагога і любімага сына і ўнука* ***Сяргея Ігаравіча ВОЛКАВА*** *з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у вучобе, шчасця ў жыцці.*
**Мама, дзед і бабуля,** *г. Масты.*

*Віншуем з днём нараджэння дарагога мужа, тату, дзядулю* ***Мікалая Юльянавіча БАТУРУ*** *з в. Забалоцце. Жадаем шчасця, здароўя, радасці і дабрабыту.*
**Жонка, дзеці і ўнучка Воленька.**

*Віншую* ***Наталлю Анатольеўну ДРАПЕЗА*** *з 18-годдзем. Жадаю моцнага здароўя, выдатнай вучобы, шчасця і ўсяго самага найлепшага.*
**Сястра Людміла,** *в. Валосавічы.*

*Віншуем з днём нараджэння* ***Тамару Іванаўну ТАЖУРА.*** *Жадаем здароўя, шчасця і доўгіх гадоў жыцця.*
**Муж, дзеці,** *в. Чкалава.*

*Віншуем* ***Клаўдзію Адамаўну ЛАДУЦЬКА*** *з г. Гродна з днём нараджэння. Здароўя і шчасця, даўгалецця зычым табе, любая.*
**Дзеці, муж, зяць, унукі.**

*Віншую са святам самую прыгожую і абаяльную* ***Аксану Міхайлаўну ІНАЙТАНАВУ*** *з г. Мінска. Дзякуй за тваё харавство.*
**Валерый Мядзведзеў.**

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння* ***Таццяну Пятроўну КЛЕМЯНТОВІЧ.*** *Жадаем моцнага здароўя, радасці, поспехаў у працы і доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.*
**Сяргей, Алеся.**

*Віншуем з днём нараджэння* ***Людмілу ПАЛЫКА.*** *Жадаем шчасця, здароўя, дабрабыту, поспехаў у працы.*
**Маці, сям'я Валівачаў.**





## ПРАДАЕЦЦА:

◆ Зруб абразны 4х3 м з прыбудовай 2,2х3, цана дагаворная.
*Вілейскі раён, в. Шляны.*
*Тэл. 44-3-56.*

◆ Дом у в. Палессе Мядзельскага раёна, участак 17 сотак, побач рака, станцыя Будслаў.
*Тэл. (8-297) 51-9-54 з 10 да 17 гадзін.*

◆ Аўтамабіль «М-412» на запчасткі.
*Звяртацца: Мінская вобл., Мядзельскі раён, в. Восава.*
*Тэл. (8-297) 51-0-88.*
*Грышкевіч Мікалай.*

◆ Фольксваген-Джэта, 1982 г. в., 5 КПП; 1,3 л бензін, 4 дзвярэй.
*Тэл. у Мінску 271-86-09.*

◆ ВАЗ-2121 «Нива», 90 г. в., цана 3200$, торг.
*Звяртацца: г. Горкі, тэл. 2-25-91 пасля 18.00.*

◆ Высокі 20-тонны кантэйнер у г. Асіповічы.
*Тэл. (8-02235) 27-3-46.*

◆ Электраліты: каліевы, натрыевы, АКБ.
*Тэл. у г. Слуцку (8-01795) 22-7-10.*

◆ Дом драўляны з гаспадарчымі пабудовамі і садам на станцыі Ашмяны.
*Тэл. у Мінску 49-54-61.*

◆ Глюкаметр нямецкай вытворчасці для вымярэння ўзроўню цукру ў крыві.
*Звяртацца ў г. Бабруйску па тэл. (8-02251) 3-05-05.*

◆ Дом драўляны з гаспадарчымі пабудовамі, участак 18 сотак у Мастоўскім раёне.
*Тэл. у Мастах 2-84-90.*

◆ Кацёл КСТ-12,5 (г. Мінск) на цвёрдым паліве на плошчу 100 кв. м.
*Раб. тэл. у Маладзечне 6-81-07 з 8.00 да 17.00.*

◆ Камплект абсталявання ў зборы для пераводу на газавае паліва легкавых аўтамабіляў маркі «ВАЗ» і «Масквіч», танна.
*Тэл. у Калінкавічах 7-27-41, пасля 18.00.*

◆ Прадаю або мяняю дом з гаспадарчымі пабудовамі ў в. Куркулі Мядзельскага раёна.
*Тэл. 58-9-79.*

◆ «УАЗ-469-В», 87 г. в., грузапасажырскі, у добрым стане, 2.500$, торг, або мяняю на л/аўтамабіль ці «Т-25», «МТЗ».
*Тэл. (8-272) 5-82-90.*

◆ Аліментнае шчаня масціна (сабака, прывіты, ад імпартаваных бацькоў).
*Тэл. 277-48-48.*

◆ Дом у в. Магілёўцы Пружанскага раёна Брэсцкай вобл.
*Тэл. у г. Навагрудку 23-1-40. Буткевіч.*

◆ Станок дрэваапрацоўчы, бытавы універсальны з рэйсмусам.
*Тэл. у Мінску: 238-94-32, 276-86-01.*

◆ Кватэра 2-пакаёвая ў в. Гоцк Салігорскага раёна Мінскай вобл.
*Тэл. у Салігорску: 3-36-73, 77-1-83.*

◆ Жыхару Астраўца — Мядзеля — Смаргоні 5 тон духмянага сена (корм БРЖ) і сродкі фітатэрапіі.
*Тэл. (8-01591) 25-1-18.*

◆ Кватэра 3-пакаёвая ў Крупках (2-і паверх 5-павярховага дома), усе выгоды, тэлефон, гараж, хлеў.
*Тэл. 5-56-06.*

◆ Электрамясарубку-шаткоўню «Памочніца» новую, гарантыя, цана — 400 тыс. руб.
*Тэл. 266-76-31.*

◆ Грузавы аўтамабіль «ГАЗ-66», фургон, у выдатным стане, 2.000$. «Аудзі-100», дызель; г. Мядзель.
*Тэл. (8-297) 53-2-04, з 18 гадзін.*

◆ Аўтамабіль «Таўрыя», 1995 г. в., прабег 8 тыс. км, 4-дзверны.
*Тэл. у Мазыры 2-45-43, вечарам.*

*АКЦЫЯ «ВЫРАТАВАННЕ»*

# Рэдакцыйны партфель «Звязды» штодня папаўняецца пісьмамі з просьбай адправіць дзяцей на аздараўленне. Ніводзін ліст-зварот мы не абмінём увагай

**Магчыма, камусьці падалося, што з адыходам лета завяршылася гарачая і патрэбная чытачу акцыя «Выратаванне», абвешчаная «Звяздою» сумесна з Беларускім дабрачынным фондам «Дзецям Чарнобыля». Не завяршылася. Газета — што зразумела — выклікала на сябе сапраўдны «агонь». Пошта толькі яшчэ шырыцца. Павялічваецца прастора, геаграфія зваротаў. Яснейшай і нам становіцца ўся складанасць задачы, за якую ўзяліся, спадзеючыся хоць нечым дапамагчы людзям, якія ў большай меры, чым хто, сутыкнуліся з бядою і якія рады атрымаць хай сабе і невялікую, але падтрымку.**

Пошта апошніх дзён і тыдняў дзеліцца як бы на дзве часткі. Першую складаюць лісты ад знаёмых нам карэспандэнтаў. Пішуць тыя людзі, чые дзеці ўжо трапілі на аздараўленне, вярнуліся з-за мяжы поўныя сіл і ўражанняў, гатовыя гадзінамі расказваць пра чужаземную экзотыку, жыццё і норавы сваіх новых сяброў. Крышачку красамоўных цытат. І зусім не для таго, каб задаволіць унутрызвяздоўскія амбіцыі: маўляў, вось якім чынам практычна мы дапамаглі людзям. Не, прычына хутчэй у наступным: газета задавальняе патрэбу людзей выказацца, падзяліцца радасцю, няхай сабе і не дужа вялікай.

На самым пачатку акцыі «Выратаванне» «Звязда» друкавала ліст спадарыні Сліжык з Валожына. І вось — новая завочная сустрэча з маці чацвярых дзяцей. На аздараўленне ў Германію ездзілі двое яе дзетак. «Паездкай задаволены, — піша маці, — кармілі добра, можна было есці колькі ўлезе, ездзілі ў госці ў сем'і, на атракцыёны вазілі, у басейн — 2 разы. Вельмі прыгожая прырода каля тых домікаў, дзе яны жылі... Прывезлі падарункі, і можна было выбраць «гуманітарку». Словы ўдзячнасці — і ў лісце Таццяны Канстанцінаўны са Столінскага раёна, маці Марыны: «Хачу вам сказаць вялікі дзякуй за тое, што маю дачку паслалі за мяжу, у чыстую зону. Яна паправіла сваё здароўе, стала больш актыўнай, вясёлай. Як вярнулася — ніводнага разу не балела галава... Вялікі дзякуй Беларускаму дабрачыннаму фонду «Дзецям Чарнобыля», жыхарам Германіі, рэдакцыі «Звязды», што яны арганізавалі і вывезлі дзяцей за мяжу».

Прызнацца, нельга без хвалявання чытаць трывожнае, хаця і ўдзячнае пісьмо Ганны Рыгораўны Анішчанкі з Гомельскага раёна: «Нам, шматдзетным сем'ям, сапраўды прыходзіцца нясоладка. Мая сям'я складаецца з 6 чалавек, муж працуе ў саўгасе і за 5 месяцаў атрымаў 290 тысяч рублёў, мой заробак складае 400—500 тысяч рублёў у месяц (як атрымалі ліст, прайшоў нейкі час, то можа што змянілася ў лепшы бок? — **А. К.**). Дзеці часта хварэюць. І каторы раз няма за што купіць лекі. Маім дзецям, Максіму і Алёне, пуцёўкі ў санаторый чакаем ужо з сакавіка 1995 года. У раённай паліклініцы сказалі, што калі пуцёўкі будуць, то нам пазвоняць. Вось мы і чакаем да гэтага часу. А купіць за грошы пуцёўкі для дзяцей не можам — няма сродкаў. Мы нават садавіну, вітаміны купіць не можам... Калі мы жылі ў Барталамееўцы, то ў нас быў свой сад. Дзеці маглі есці і яблыкі, і грушы, і ўсё з агарода. А цяпер такой магчымасці няма. Сад, які мы тут пасадзілі, яшчэ не вырас. Вось дзецям толькі і застаецца, што пазіраць на садавіну мясцовых жыхароў праз плот... Калі атрымала ад вас адказ на маё пісьмо, то вельмі расхвалявалася. Бо ўжо не спадзявалася, не было ўжо ў мяне надзеі, што можна хоць аднекуль атрымаць дапамогу...» Вырасце яшчэ ў вас, у Міхальках, сад. І надзея на лепшае таксама павінна вырасці. Мо і людзі наўкола папрыгажэюць. Нельга ж заставацца з бязвер'ем, нельга перадаваць яго дзецям.

І яшчэ радкі з пісьма Валянціны Сяргееўны Шыла з вёскі Крайск Лагойскага раёна: «Паважаны старшыня фонду! Столькі дабрыні, міласэрнасці дарыце вы людзям. Вы ўдыхнулі ў мяне веру ў жыццё, усялілі надзею на лепшую будучыню маіх дзяцей, веру ў чалавечнасць. Паправіўшы здароўе за мяжой, мае дзеці будуць успамінаць вас усё жыццё. Я гэтулькі нацярпелася гора і пакут, прыніжэння і крыўды, што ваша дапамога — гэта як дар... Я — інвалід, і гэтым сказана ўсё, з-за гэтага шмат цярпяць мае дзеці... Дзякуй вам, добры чалавек!»

Лісты такія, мусіць, і не трэба каменціраваць. Усё ў іх сказана. Дапамога, няхай сабе і разавая, — як выратавальны круг для людзей, што воляй лёсу, ды і шмат якімі іншымі акалічнасцямі кінуты на складанейшыя выпрабаванні.

Другая частка пошты — лісты тых, хто звярнуўся ўпершыню. Сярод іншых пісьмаў уражвае, прымушае задумацца аб тым, што ж ёсць гора людское, і вось гэтая споведзь Валянціны Сцяпанаўны з Чавусаў (мы не называем яе прозвішча, жанчына пісала для рэдакцыі, для фонду, і можа ёй не хацелася б выстаўляць напаказ усяму свету бяду свайго сына): «У мяне сын — інвалід дзяцінства па зроку. Захварэў ён вачыма ў чатыры гады. Былі мы і ў Мінску, дзе нас «адфутболілі» па месцы жыхарства. На пачатку хваробы ездзіла ў Маскву... дзе пацвердзілі дыягназ і сказалі, што такія захворванні яны практычна не лячылі. І каб яго лячыць — трэба выпрабоўваць нейкія лекі (быць паддоследным трусяняткам?). Словам, вось ужо сем гадоў лечымся ў Магілёве па два разы на год. Стаім на ўліку ў таварыстве інвалідаў. Карысці ад гэтага мала. Яны займаюцца ў асноўным дарослымі. Калі і прыходзіць якая гуманітарная дапамога, то мы яе не бачым, а яшчэ ў дзіцяці гастрыт страўніка, лекі ж усе ў аптэцы толькі ў камерцыйным аддзеле... Здаровыя дзеці за мяжу ездзяць, а хвораму, атрымліваецца, нельга. Маўляў, лішні клопат з ім. Раней у нас была «зона», і дзеці ў школе атрымлівалі бясплатнае харчаванне. А зараз — не... Вось і мучаецца дзіця жыватом. Я ж працую ў школе тэхнічкай, атрымліваю 121 тысячу рублёў у месяц, муж і зусім беспрацоўны... Куды ж дзецца з нашым горам, калі мы дзяржаве і нікому іншаму непатрэбны...» Лягчэй лёгкага адказаць Валянціне Сцяпанаўне, што, маўляў, не трэба кідацца ў роспач, трэба думаць пра дзіця, спадзявацца на лепшае. А вось дапамагчы... Ліст ваш, Валянціна Сцяпанаўна, у фондзе. І кіраўнік яго, і супрацоўнікі думаюць над тым, як вам канкрэтна дапамагчы.

У многіх лістах ці не галоўная такая думка. Сфармулюем яе вуснамі, словамі саміх нашых чытачоў: «Чаму ж толькі дзеці настаўнікаў, дырэктараў школ, гаспадарак могуць кожны год ездзіць за мяжу..?» Сапраўды, чаму толькі яны? Але ж калектыў, грамадства — гэта вы ўсе, гэта не адзін толькі калгасны старшыня. Хіба не так? Дык чаму ўсім калектывам вы слабейшыя за аднагодвух чалавек? Няўжо вы думаеце, што ўсёмагутная праверка «зверху» прыйдзе і зменіць лад жыцця вашага? Так, калі ў вас побач зладзеі, хабарнікі — з імі, магчыма, і разбяруцца. Але ж як цяжка разабрацца з мараллю чалавечай. Тым болей — з мараллю ў паводзінах кіраўніка (ці то калгаса, ці то прадпрыемства, ці то школы). Тут вы толькі самі можаце сабе дапамагчы, дзякуючы ўласнай грамадскай актыўнасці.

**Паважаныя чытачы! Акцыя «Выратаванне», якую праводзяць «Звязда» і Беларускі дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля», працягваецца. Пішыце нам. Расказвайце пра свае ўласныя клопаты падрабязна. Абавязкова сачыце за старонкамі «Звязды» (дарэчы, зараз ідзе падпіска на першае паўгоддзе 1997 года) — акцыя «Выратаванне» набудзе ў хуткім часе новы штуршок (але аб усім падрабязна — у наступных публікацыях).**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*СПРОБА РАССЛЕДАВАННЯ*

# БІЗНЕС «ПА-НАШАМУ»

**Не шмат часу прайшло з тае пары, калі ля кожнага абменнага валютнага пункта стаялі маладыя хлопцы з пачкамі грошай у руках і, напачатку адкрыта, а потым асцярожным шэптам прапанавалі вам абмяняць «зайцоў» на «долары-марачкі», альбо наадварот. Новыя ўказы і пастановы амаль змялі з вуліц гэтых нястомных і бойкіх мянялаў. Цікава, куды, у якія сферы заробку падаліся гэтыя, трэба заўважыць, не абдзеленыя розумам хлопцы? Зразумела, што пасля таго, як многія з іх адчулі ў кішэні вялікія і шалёныя грошы, аб упартай і сумленнай працы дзесьці на вытворчасці ці ў канторы на голым і незайздросным акладзе не магло быць і размовы. Але ж трэба зарабляць сродкі да існавання, паколькі нават буйныя сумы маюць уласцівасць даволі хутка разыходзіцца.**

Дык вось, маючы пэўныя матэрыяльныя сродкі, учарашнія «валютчыкі» сталі шукаць спосабы ўкласці іх у прыбытковую справу. Многія з іх заняліся аўтабізнесам. Гэта значыць, на свае грошы куплялі за мяжой аўтамабілі і пryганялі іх сюды на продаж. Справа даходная, але не кожнаму ў ёй фарціць. Хтосьці, у каго крыху болей розуму, а галоўнае — грошай і сувязей, адчынілі свае фірмы, спрабуючы займацца гандлёвай дзейнасцю. Трэба адзначыць, што тут працэнт рызыкі згубіць грошы ў адносінах да тых, хто «ганяе» машыны, намнога вышэйшы, і цвёрда стаць на ногі змаглі самыя прадбачлівыя і ўпартыя. Дарэчы, амаль усе былыя валютчыкі спрабавалі ў той ці другой ступені займацца гандлем. А яшчэ ёсць і такія, што пасля страты цёплага месца ля «абменніка» не надумалі нічога лепшага, як падацца ў крымінальны свет. Што ж, як гаворыцца, кожнаму сваё.

Але апошніх няшмат, паколькі большасць валютчыкаў складалі нармальныя хлопцы, якія заняліся гэтай справай толькі з адной мэтай: зарабіць хуткія і добрыя грошы. Няхай гэта было трохі супрацьзаконна, але ўсё ж не на столькі, каб за сваю дзейнасць трапіць за краты. Таму, шукаючы новыя шляхі лёгкай і адносна прыстойнай магчымасці атрымаць адчувальныя даходы, гэтыя прадпрымальныя хлопцы заўсёды трымаюць нос па ветру і імгненна рэагуюць на ўсе капрызы нашай эканомікі.

Так, напрыклад, нядаўна ўзнік дэфіцыт на цыгарэты. Былыя валютчыкі тут жа аказаліся на ўзроўні, у лічаныя дні забіўшы рынак патрэбнымі цыгарэтамі. Як мне гаварылі старыя знаёмыя, нейкі час працаваўшыя ў тым самым мяняльным бізнесе, на цыгарэтным буме вельмі многія вопытныя валютчыкі здолелі зарабіць сапраўды вялікія грошы.

Не затухае гэты бізнес і цяпер. Днямі выпадкова сустрэўся са сваім старым студэнцкім сябрам, які ў свой час таксама адстаяў нямала гадзін ля абменнага пункта. На гэты раз я убачыў яго каля аўтобуса, каля якога мітусіліся пераважна маладыя людзі камерцыйнага выгляду. Як высветлілася, гэта быў рэйс на Маскву, куды нашы беларускія прадпрымальнікі адпраўляюцца за таварам.

Ігар (так завуць майго сябра) на маё пытанне, які тавар збіраецца браць у Маскве, паведаміў, што едзе за цыгарэтамі.

— І што, сапраўды, гэты бізнес настолькі прыбытковы? — пацікавіўся я.

— Лічы сам. З аднаго пачка цыгарэт я маю два, два з паловай цэнты, як пашанцуе.

— Нешта ж вельмі мала...

— Як сказаць. Вядома, калі прадаваць па адным пачку, днямі стоячы на базары, то можна больш праесці, чым зарабіць, але ж я дзейнічаю інакш. Я закупляю адразу 20—30 скрынь, прывожу іх сюды і адразу здаю на Камароўцы. Вось тут і атрымліваюцца зусім неблагія грошы.

Я хоць і не моцны ў матэматыцы, але змог хуценька прыкінуць магчымыя памеры заробку Ігара. На самай справе, выходзіла вельмі нядрэнна.

— І што, усё так проста: паехаў, узяў, тут здаў і паклаў грошы ў кішэню?

— Калі гэта было б так проста... — усміхнуўся ён.— Ды не, праблем, натуральна, хапае. Прыехаў у Маскву — і глядзі ва ўсе вочы, бо тамашнія аферысты «абуюць» у секунды. Па-першае, могуць ашукаць у час разліку. Па-другое, і гэта здараецца вельмі часта, могуць падсунуць замест цыгарэт фальшыўкі, гэта значыць у нармальных на першы погляд пачках будзе напханая папера. І паспрабуй у той спешцы, мітусні адразу раскрыць падман. Многія на гэтым пагарэлі.

— А з міліцыяй як?

— А так. Калі на зваротным шляху ў аўтобусе будзе праведзены вобыск, то ўсе нашы цыгарэты адразу канфіскуюць.

— Чаму? — не зразумеў я. — Гэта ж такі тавар, як і ўсе астатнія.

— Таму што на нашых цыгарэтах няма акцызных марак. Разумееш? Вось чаму і існуе гэты бізнес, вось чаму ў Маскве цыгарэты каштуюць танней.

— Выходзіць, ты вязеш кантрабанду?

— Не, вось тут з майго боку ніякай кантрабанды. Кантрабандыст той, хто даставіў тавар у Маскву. А я што? Я проста купіў для сябе цыгарэты і вязу іх да сябе дамоў. Але я ж ніякіх межаў не перасякаю. Так што канфіскаваць у мяне цыгарэты могуць як незаконна набытыя, але прыцягнуць мяне да крымінальнай адказнасці не маюць права.

— Значыць, ты рызыкуеш толькі сваімі грашыма?

— Значыць, так. Ну, і яшчэ здароўем.

Я з сумам паглядзеў на камфартабельны аўтобус маркі «Мерседэс». Ігар перахапіў мой позірк і паківаў галавой:

— Так, туды сядзеш добра, з усімі зручнасцямі. Але назад зусім па-другому. Апошні раз так заставілі таварам увесь праход, што нельга было прыўстаць усю дарогу. Каб выйсці з аўтобуса, трэба было паўзці па цюках і па плячах пасажыраў. Ледзь не здурэлі, пакуль да Мінска дабраліся. А тут адразу ж, без перадыху, выгрузка, потым шукаеш машыну, грузіш свае скрыні і далей па ланцугу. Работы хапае, павер. Вось і на гэты раз поўны аўтобус грузіцца турыстамі. Зноў тое ж самае будзе, — Ігар нярадасна пакасіўся на рад галоў за вокнамі «Мерседэса».

— Як ты адзін спраўляешся?

— А я і не адзін. Вунь мой памочнік, — Ігар указаў на моцнага хлопца. — Бачыш, месца заняў. Прынамсі, у гэтай справе аднаму ніяк не здолець, як не круціся.

— Ён у цябе на стаўцы?

— Так, плачу яму сто долараў за адну паездку, ну і акрамя таго, у нас агавораны пэўны працэнт у выпадку ўдалай аперацыі.

— Усё пралічана?

— Ну а як жа? У нашай справе без дакладнага падліку не абысціся, інакш у тры секунды «праляціш».

— А канкурэнцыя вялікая?

— Канкурэнтаў хапае, — кіўнуў Ігар, — мінулы раз чалавек дзесяць цыгарэты везлі. Амаль усе былыя валютчыкі. Дзесяць чалавек на адзін аўтобус — гэта, вядома, многа. Але пакуль што справы ідуць, рынак у нас вялікі, на ўсіх хапае. А там пабачым.

— Зноў, мабыць, на валюту станеш?

— Ну, калі долар заскача, то чаму б і не? Справа нядрэнная, можна ўспомніць старое.

Мы яшчэ трохі паўспаміналі былое, потым развіталіся і Ігар палез у аўтобус. А я пакрочыў сваім шляхам, думаючы аб тым, колькі сіл і нерваў прыйдзецца страціць майму сябру ў гэтай паездцы. Але, пры размове, я не адчуў у яго словах ні слабасці, ні жадання пажаліцца старому сябру. Так, канкрэтныя, дакладныя фразы, у вачах — рашучасць і кропля насцярожанасці. Чалавек упэўнены ў сабе і ўпэўнены ў тым, што ўсё робіць правільна. Дарэчы, за ім я не ведаю ніводнага правапарушэння. Дык, можа, гэта і ёсць новае пакаленне, мабыць, прымушанае часам ісці крыху няроўнай дарогай, але якое ўпарта жадае дасягнуць сваёй мэты, не чакаючы дапамогі нашай не вельмі пакуль магутнай дзяржавы?

**Сяргей КУЛАКОЎ.**

# ВАКОЛ «МАГНАТБАНКА» І ІНШЫХ...

У апошні час, нядобрасумленна карыстаючыся прававой недасведчанасцю пераважнай большасці грамадзян, прэс-служба Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь сістэматычна і мэтанакіравана дэзінфармуе насельніцтва, распаўсюджваючы ў сродках масавай інфармацыі заведама скажоныя звесткі аб некаторых рашэннях, прынятых Вышэйшым гаспадарчым судом Рэспублікі Беларусь, тым самым фарміруе ў грамадзян думку аб судзе як аб віноўніку ўсіх бед, звязаных з фінансавай неплацежаздольнасцю шэрага банкаў, блытаючы пры гэтым прычыну і вынік. А між тым Вышэйшы гаспадарчы суд Рэспублікі Беларусь толькі пракансгатаваў рэальны эканамічны стан шэрага банкаў.

У прыватнасці, у інфармацыі «Вакол «Магнатбанка» і іншых...», апублікаванай у газеце «Звязда» ад 22 кастрычніка гэтага года, прэс-служба Нацыянальнага банка паведамляе наступнае: «Пастановай Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь ад 10 кастрычніка 1996 г. прызнаны несапраўднымі рашэнні праўлення і распараджэнне Нацыянальнага банка аб прымусовай ліквідацыі і стварэнні ліквідацыйных камісій па банках «Дукат», «Магнатбанк» і «Інтэкс». І далей ідзе сцвярджэнне, маўляў, гэта рашэнне не дае магчымасці выканаць іх абавязацельствы перад фізічнымі асобамі-ўкладчыкамі.

Гэта сцвярджэнне ў корані няправільнае. Вышэйшы гаспадарчы суд пры прыняцці пастановы ў парадку нагляду аб прызнанні несапраўдным рашэння Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь кіраваўся Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, законам, а таксама імкненнем максімальна задаволіць прад'яўляемыя фінансавыя патрабаванні крэдытораў (фізічных і юрыдычных асоб). У прыватнасці, з верагоднасцю было ўстаноўлена, што суб'екты гаспадарання — акцыянерныя камерцыйныя банкі на момант вынясення рашэння былі не ў стане задаволіць прад'яўляемыя ім фінансавыя патрабаванні крэдытораў.

Клапаціцца ж аб інтарэсах грамадзян Нацыянальнаму банку трэба было пры выяўленні першых негатыўных тэндэнцый, якія сведчаць аб пагаршэнні эканамічных паказчыкаў банкаў, кантроль за якімі з'яўляецца найпершым абавязкам Нацбанка.

У сувязі з публікацыяй трэба ўдакладніць прычыны з'яўлення гэтай судовай пастановы.

Такім чынам, пры праверцы справы ў парадку нагляду Вышэйшы гаспадарчы суд Рэспублікі Беларусь устанавіў наступнае: «Праўленне Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь прыняло рашэнне аб прымусовай ліквідацыі пяці камерцыйных банкаў: «Дукат», «Магнатбанк», «Інтэкс», «Садружнасць», «Беларускі крэдыт» (пратакол пасяджэння праўлення Нацыянальнага банка ад 26.06.1996 № 11).

Невядома, куды спяшалася праўленне Нацбанка, прымаючы гэта рашэнне, калі на той перыяд ужо дзейнічала права (Закон Рэспублікі Беларусь «Аб эканамічнай неплацежаздольнасці і банкруцтве»), вялася судовая працэдура банкруцтва банкаў (вызначэнне Вышэйшага гаспадарчага суда ад 3.06.1996 па справе № 60-3/96; рашэнне гаспадарчага суда Мінскай вобласці ад 3.05.1996 па справе № 88-7). Да таго ж, згодна з артыкулам 5 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб эканамічнай неплацежаздольнасці і банкруцтве», справы аб банкруцтве адносяцца да кампетэнцыі суда і не ўваходзяць у кампетэнцыю якіх-небудзь іншых органаў Рэспублікі Беларусь.

Дарэчы, судаводства па справе аб банкруцтве з'яўляецца абавязковым для суда, паколькі толькі пры ўмове ўзбуджэння судаводства аб банкруцтве заканчваецца першапачатковая справа аб стадыі эканамічнай неплацежаздольнасці (артыкул 20 і 23 Закона «Аб эканамічнай неплацежаздольнасці і банкруцтве»).

Тым самым рашэнне Нацбанка аб прымусовай ліквідацыі банкаў, якія трапілі пад прававы рэжым заканадаўства аб банкруцтве, уступіла ў супярэчнасць не толькі з правам і законам, але і правам на рэалізацыю пачатага ва ўстаноўленым парадку правасуддзя, якое з'яўляецца выключнай кампетэнцыяй судоў Рэспублікі Беларусь. Аб гэтым, уласна кажучы, і сказана ў пастанове Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь ад 10 кастрычніка 1996 года.

Аднак Нацбанк, не зазірнуўшы ў прававыя «святцы», спрабуе ўвесці ў зман грамадзян. Інфармацыю, якая паступае з Нацбанка, нельга расцаніць інакш, як спробу націску на суд. Канчатковае ж рашэнне аб ліквідацыі «Магнатбанка» яшчэ не вынесена. І ў сувязі з гэтым ніхто, у тым ліку і Нацбанк, не мае права прадказваць і іншым чынам уплываць на існаванне будучага рашэння, а тым больш падбухторваць грамадзян да гэтага, карыстаючыся складанай сітуацыяй. Гэта забаронена Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусь. У гэтай сувязі, відаць, варта напомніць артыкул 110 з Асноўнага закона краіны: «Суддзі пры ажыццяўленні правасуддзя незалежныя і падпарадкоўваюцца толькі Закону. Якоенебудзь умяшанне ў дзейнасць суддзяў па выкананню правасуддзя недапушчальнае і цягне адказнасць па закону».

У заключэнні пры такіх абставінах лічым неабходным растлумачыць грамадзянам, што разгляд указанай справы судом не ставіць (і ў прынцыпе не можа ставіць) пад сумненне права на максімальна поўнае задавальненне іх патрабаванняў як крэдытораў. Кіраўніцтву ж Нацбанка ўласныя ўпушчэнні ў рабоце не варта прыкрываць валюнтарысцкімі сілавымі рашэннямі.

**Прэс-служба Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь.**

# ЕЎРАПЕЙСКІ БАНК РЭКАНСТРУКЦЫІ І РАЗВІЦЦЯ БАЧЫЦЬ У БЕЛАРУСКІМ БАНКУ «АЛІМП» НАДЗЕЙНАГА ПАРТНЁРА

Па сутнасці, завяршыўся карпатлівы працэс акрэдытацыі банка «Алімп» як упаўнаважанага Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця. Як паведаміў выканаўчы дырэктар «Алімпа» Яўген Свірскі, неабходная падрыхтоўчая работа закончана, банк атрымаў станоўчае заключэнне буйной міжнароднай аўдытарскай фірмы, і цяпер рыхтуецца адпаведны дагавор аб акрэдытацыі, які павінны падпісаць ЕБРР, «Алімп» і Нацыянальны банк. У выніку, пасля падпісання такога дагавора, банк «Алімп» стане чацвёртым банкам у Беларусі, з якімі ЕБРР вырашыў супрацоўнічаць пры рэалізацыі сваіх праграм і праектаў (адпаведны статус яшчэ раней атрымалі Белзнешэканомбанк, «Пріор» і Белбізнесбанк). Вырашальнымі фактарамі пры гэтым сталі стабільная работа банка, яго ўстойлівае фінансавае становішча, давер да заснавальнікаў, незалежнасць (вядома, адносная) ад уладаў.

*ПРАВАСУДДЗЕ?*

# ПРЫГАВОР СЛАДАСТРАСНІКУ

**У СВОЙ ЧАС ГЭТА СПРАВА, можна сказаць, ускалыхнула грамадскасць. Было шмат водгукаў. У адным прапаноўвалася траіх «герояў» гэтай гісторыі павесіць на бярозе. Думаю, гэта залішне, трэба было толькі судзіць іх па ўсёй строгасці закона, што ў правасуддзя не вельмі атрымалася.**

**На працягу 1993—94 гг. Аляксандр Бярсудскі надрукаваў у «Звяздзе» восем артыкулаў па крымінальнай справе аб згвалтаванні Святланы Б. грамадзянамі Ракецкім, Шумскім і Жалабковічам. Колькасць артыкулаў прама прапарцыянальная нежаданню судовых інстанцый пасадзіць гэтых траіх за краты. Упартая барацьба дала свой вынік: Шумскі і Жалабковіч былі адпраўлены туды, дзе ім і неабходна знаходзіцца, — у калонію. Трэці — Ракецкі — проста збег і хаваўся два гады. Летам гэтага года ён здаўся. 14 кастрычніка адбыўся суд.**

### ДА ГІСТОРЫІ ПЫТАННЯ

4 чэрвеня 1993 года, увечары, маладыя людзі Юра і Света апынуліся ў інтэрнаце Беларускага аграрна-тэхнічнага універсітэта. Юра запрасіў Свету наведаць сябра. Сябра не знайшлі, а Юра выпіў з гора і заснуў. Так ён потым тлумачыў. Света спрабавала яго разбудзіць, але беспаспяхова.

Тут на сцэне з'явіліся чацвёра: Павел Ракецкі, Аляксандр Шумскі, Павел Жалабковіч і Андрэй Рогач (непаўналетні, па справе праходзіў як сведка). Трое былі землякі, з Нарачы, Шумскі — з Ваўкавыскага раёна. Перад гэтым усе грунтоўна нажлукціліся гарэлкі. Скажам так — лейцы ўжо адпусцілі.

Мне не хочацца лішні раз усё гэта апісваць, мне проста шкада Свету, якой любы напамін — нібы ўдар нажом. Словам, было згвалтаванне, самае дзікае, жудаснае, нават калі чытаеш аб ім у абвінаваўчым заключэнні, мурашкі паўзуць па целе. Не верыцца, каб адзін чалавек мог такое зрабіць у адносінах да другога. Але — зрабілі, і пасля гэтага людзьмі іх называць нельга. Гэта — нелюдзі. Адназначна.

Шумскі, Ракецкі і Жалабковіч гвалтавалі Свету па чарзе, спрабавалі ўцягнуць і 14-гадовага Рогача, той адмовіўся. Пры гэтым дзяўчыне ў двух месцах зламалі нос, толькі зараз стала ясна, што трэба рабіць аперацыю на сківіцы.

Маці забрала Свету з інтэрната ў 5 гадзін раніцы. Разам напісалі заяву ў міліцыю. «Аматараў клубнічкі» ўзялі хутка, неўзабаве яны ўжо парыліся на «шконках» у СІЗО на вуліцы Валадарскага. Следства таксама было няцяжкім і аператыўным: усё ясна. На 14 верасня 1993 года прызначылі суд. Ахвяра і яе маці не сумняваліся ў справядлівым прыгаворы. Пад гэтым яны разумелі яго жорсткасць. Потым, праўда, высветлілася, што суддзя Карпінчык меў сваё меркаванне.

Прыгавор большасць прысутных у зале прывёў у лёгкі шок: пяць гадоў пазбаўлення волі ўмоўна з пяцігадовым выпрабавальным тэрмінам. Усім траім.

Ніхто не мае права ўздзейнічаць на суддзю, і такіх фактаў у адносінах да сп. Карпінчыка не выяўлена. Калі ён памыляецца, то суд вышэйшай інстанцыі мае магчымасць памылку выправіць. Адно, што можна заўважыць: разуменне законнасці ў суддзі Карпінчыка было крыху своеасаблівым.

Далей я павінен працытаваць калегу Бярсудскага: «Не апошняе значэнне ў такім шчаслівым для іх зыходзе справы мелі, напэўна, намаганні бацькоў... Тым больш, што магчымасці сякія-такія маюцца. Бацька Шумскага — адзін з буйнейшых ваўкавыскіх кіраўнікоў, бацькі і сваякі Ракецкага — не апошнія людзі ў аграпроме Мядзельшчыны. А бацька і маці Жалабковіча — урачы, кіраўнікі нарачанскіх санаторыяў, таксама асобы паважныя і ўплывовыя. Натуральна, пайшлі ў ход усе сувязі...»

Тут мне каменціраваць нечага.

Потым была касацыйная скарга маці Святланы, пасяджэнне калегіі Мінгарсуда па крымінальных справах, адмена прыгавору ў адносінах да Ракецкага і Шумскага. У адносінах да Жалабковіча яго пакінулі без змен — прызналі, што ў хлопчыка дрэннае здароўе.

Потым была другая касацыйная скарга, ужо ў Вярхоўны суд. Той разглядаў яе тры месяцы і вярнуў для паўторнага разгляду ў калегію Мінгарсуда. Ужо пад старшынствам іншага суддзі яна прадубліравала папярэдняе рашэнне і іншага выйсця не мела, бо тады б прызнала сваю памылку. А суддзі гэтага не любяць.

Потым былі новыя скаргі і новыя пракурорскія пратэсты, новыя артыкулы майго калегі. Што ў рэшце рэшт прывяло да судовага пасяджэння 8 снежня 1994 года. Шумскі быў пазбаўлены волі на тры гады, Жалабковіч — на тры гады шэсць месяцаў з адбыццём пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

А Ракецкі знік, збег.

Што ж Святлана? За гэты час яна двойчы спрабавала скончыць жыццё самагубствам. Другі раз толькі выпадковасць у выглядзе крука ў сцяне пад акном, з якога яна выкінулася, выратавала дзяўчыну. Яна стаіць на ўліку ў псіханеўралагічным дыспансеры, яе назірае вопытны псіхіятр. Гэта зразумела, такія раны не зарастаюць доўга, часта жыцця не хапае.

У прыгаворы Жалабковічу і Шумскаму мяне ўразілі наступныя словы: «...судовая калегія ўлічвала як змякчаючыя адказнасць Жалабковіча і Шумскага акалічнасці іх першую судзімасць, станоўчыя характарыстыкі з месцаў работы і вучобы, тое, што яны не з'яўляліся ініцыятарамі злачынных дзеянняў... Жалабковіч учыніў злачынства ў непаўналетнім узросце і... стан здароўя з'яўляецца нездавальняючым».

Рашэнне суда я аспрэчваць не магу. І гэта правільна. Аднак ніхто не можа пазбавіць мяне магчымасці даць маральную ацэнку.

Я і даю: як вам не сорамна?..

### ВЯРТАННЕ БЛУДНАГА СЫНА

Між тым, «асоба, якая знаходзіцца ў вышуку» (так сціпла быў пазначаны ў прыгаворы Ракецкі), «бегала» па Беларусі і сумежных краінах. Гісторыя ўцёкаў нагадвае дэтэктыў.

Тут што цікава: з аднаго боку — на Ракецкага аб'явілі вышук, разаслалі па аддзяленнях міліцыі арыенціроўкі, з другога — вышук вяла непасрэдна маці Святланы, Ларыса Мікалаеўна , з дапамогай супрацоўнікаў Першамайскага РАУС Мінска Хмелянкова і Савіна. Яны як бы пайшлі ёй насустрач, паставіліся па-чалавечы. Хоць маглі і спаслацца на занятасць. Дзякуй ім.

Аператыўнікі неаднойчы наведвалі Нарач, рабілі засады. Былі на кватэры бацькоў Ракецкага, бачылі там сляды, якія сведчылі — Ракецкі недзе тут, паблізу. Магчыма, у санаторных доміках, можа, у сваякоў. Потым нібыта Ракецкі паехаў на Гомельшчыну, далей — на Украіну.

І вось тут раптам, амаль праз два гады, — Ракецкі здаецца. Сумленне прачнулася? Па начах не давалі заснуць кашмары? Надакучыла бегаць? Сумняваюся. Хутчэй за ўсё, яму паведамілі, што знойдзены нейкі варыянт спакойнага вяртання. Што за варыянт? А хто яго ведае...

Ракецкі з'явіўся ў Мядзельскім РАУС: вось я, бярыце. Але ў Мядзелі яго браць не сталі, адправілі ў Мінск, дзе «блуднага сына» нарэшце арыштавалі.

### СУД ПРАВЕДНЫ І ХУТКІ

14 кастрычніка г. г. судовая калегія па крымінальных справах Мінгарсуда разгледзела справу Ракецкага ў адкрытым судовым пасяджэнні. Адразу пытанне. Чаму — у адкрытым? Справы аб згвалтаванні разглядаюцца звычайна без публікі. Верагодна, суд мог пайсці насустрач пацярпеўшай?

У мяне ёсць прыгавор, я з цікаўнасцю яго даследаваў. Тут сапраўды шмат цікавага.

Цытую: «Дапытаны ў судовым пасяджэнні па сутнасці прад'яўленых абвінавачанняў Ракецкі П. Л. віну прызнаў поўнасцю і паказаў...» Далей: «Апрача таго, віна падсуднага Ракецкага пацверджана паказаннямі пацярпеўшай Б...» Далей: «Непаўналетні Рогач А. Н. у ходзе папярэдняга следства паказваў, што ён быў сведкам таго, як Б. ударыла падсуднага Ракецкага бутэлькай па галаве, як Ракецкі, Жалабковіч і Шумскі спрабавалі ажыццяўляць палавыя акты з пацярпеўшай і ажыццяўлялі іх, у тым ліку, у ненатуральнай форме. Бачыў, як Ракецкі ўдарыў пацярпеўшую кулаком у твар, а таксама і тое, што ў час ажыццяўлення палавых актаў яны выкарыстоўвалі зубную пасту і сала. У судовым пасяджэнні Рогач гэтых паказанняў не адмаўляў. (Гэта той Рогач, які «... у гэты час, таксама голы, бегаў па пакоі, хіхікаў, гаварыў пошлыя словы...»)

Далей: «Ацэньваючы сабраныя па справе доказы ў іх сукупнасці, судовая калегія знаходзіць паказанні пацярпеўшай Б. праўдзівымі і дакладнымі. Яны аб'ектыўна пацверджаны заключэннямі судова-медыцынскай і біялагічнай экспертыз, паказаннямі самога Ракецкага П. Л., які даў у судзе прызнальныя паказанні, іншымі сабранымі па справе доказамі...»

І апошняе: «Як абцяжваючыя адказнасць абставіны ўлічвалася тое, што злачынства Ракецкі П. Л. ажыццявіў у нецвярозым стане і з нізкіх намераў...» Іншымі словамі, віна Ракецкага, што вынікае з тэксту прыгавору, у ходзе працэсу даказана.

Я нездарма так шчодра цытаваў прыгавор. Ракецкі Павел Леанідавіч, беларус, адукацыя сярэдняя, халасты, ваеннаабавязаны, раней несудзімы, непрацуючы, пазбаўлены волі на тэрмін два гады з адбыццём пакарання ў ППК узмоцненага рэжыму...

### АСОБНАЕ МЕРКАВАННЕ

Па словах Ларысы Мікалаеўны, маці Светы, ды і ўсіх прысутных, родныя і сваякі Ракецкага яўна чакалі, што з будынка суда іх хлопчык паедзе не ў СІЗО, а дадому. Вядома, назіранне чыста суб'ектыўнае, хто спрачаецца...

У сваю чаргу Ларыса Мікалаеўна не збіраецца мірыцца з такім прыгаворам. Ёй, відаць, прыйдзецца прайсці па таму ж кругу, па якому яна хадзіла ў 1993 годзе. Касацыйная скарга ўжо накіравана куды трэба. Гарадская пракуратура, па словах Ларысы Мікалаеўны, рыхтуецца вынесці пратэст. Калі гэтага не здарыцца, то гэта абяцае зрабіць Генеральная пракуратура. Адным словам, меры прыняты.

Суддзя Уладзімір Чамрукоў у тэлефоннай размове адмовіўся каменціраваць свой прыгавор. «Ён вынесены, — падкрэсліў Уладзімір Цімафеевіч, — што тут можна каменціраваць? Да таго ж гэта не маё асабістае меркаванне, а ўсяго саставу суда. Калі вам трэба, каменціруйце самі». Што я і раблю з дазволу сп. Чамрукова.

Такім чынам, вернемся да прыгавору. Зноў жа, ніяк яго не аспрэчваючы, вазьму на сябе смеласць выказаць некалькі думак.

Судовая калегія ўлічыла змякчаючыя акалічнасці: першую судзімасць Ракецкага, станоўчую характарыстыку яго асобы, бездакорнае мінулае. На гэта я нават і не ведаю што сказаць. Паважаныя, якая «станоўчая характарыстыка»?! Вось ён перад вамі, гэты гвалтаўнік з фантазіяй, усё, што ён мог, ён вам паказаў — судзіце яго, калі ласка. Лепшым ён не стане, чалавек фарміруецца да 4-5 гадоў, потым могуць быць толькі невялікія карэктывы.

Таго ж роду — «бездакорнае мінулае». Чаму, напрыклад, суд не стаў высвятляць, як з нявіннага хлопчыка ўтварыўся гэткі монстр? Дзе і кім ён выхоўваўся? Школа вінаватая? Не, усё пачынаецца з сям'і. Безумоўна, я не магу не спачуваць бацькам. Ім цяпер пакутаваць да канца дзён сваіх, але віна — іх і толькі іх...

А над наступным пасажам у пракуратуры проста пасмяяліся. «Да гэтых акалічнасцей (змякчаючых. — **С.Ш**.) судовая калегія аднесла і тое, што Ракецкі ажыццявіў злачынныя дзеянні ў маладым узросце, шчыра пакаяўся, прызнаў сваю віну, запэўніў, што ў далейшым не ўчыніць злачынстваў», — усё на поўным сур'ёзе. Ну прама дзіцячы садзік... «Ці будзеш ты, Паша, шкодзіць?» — «Больш не буду». — «Ну, ідзі, Паша, гуляй». А пра малады ўзрост, відаць, не трэба было. Надта двухсэнсоўна гучыць.

Усё забыта, усе жудасныя абставіны злачынства, пячорнае яго дзікунства. Шукаюцца змякчаючыя віну акалічнасці. Не, суд не адмаўляе — вінаваты і яшчэ раз вінаваты. Але: «... Ракецкі, які знаходзіўся ў вышуку, добраахвотна з'явіўся ў міліцыю, што сведчыць аб яго глыбокім пакаянні...» Не веру. Не магу паверыць у «глыбокае пакаянне». Бо некалькі разоў прачытаў абвінаваўчае заключэнне і амаль на памяць ведаю тыя брудныя падрабязнасці. Вельмі добра, што здаўся, але не трэба падносіць як дасягненне. Лепш высветліць пытанне: чаму збег?

І нідзе, хоць бы адным словам, нідзе і нічога аб Святлане. Яна тут як бы лішняя. Фігуруюць толькі хлопчыкі са «станоўчымі характарыстыкамі», «бездакорным мінулым» і «дрэнным здароўем». А вось спытаць народных засядацеляў Бабенка і Аксючыца, суддзю Чамрукова, проста па-чалавечы спытаць, без усякіх юрыдычных падколак: вы змаглі б жыць з тым, з чым жыве гэтая дзяўчынка? Толькі шчыра: змаглі б? Ці, скажам, калі б з вашай дачкой такое зрабілі?

Я зусім не за тое, каб гэтыя трое атрымалі максімальныя тэрміны і выйшлі на волю поўнасцю зламанымі. (Дарэчы, я добра ведаю, што чакае ў калоніі асуджаных за згвалтаванне, тым больш непаўналетняй. Зайздросціць тут няма чаму.)

Я за тое, каб прыгавор быў справядлівы. І не пакідаў месца для самых розных, часта фантастычных, меркаванняў. Што зрабіў — за тое і атрымай. Не больш, але і не менш.

«Звязда» і далей будзе назіраць за ходам гэтай справы.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

*САЦЫЯЛОГІЯ*

# АПЫТАНЫЯ БАЧАЦЬ ВЫЙСЦЕ Ў ЦЯРПЕННІ І САМАСТОЙНЫМ ПОШУКУ

Падчас даследавання, праведзенага ў верасні 1996 года сацыялагічным цэнтрам Полацкага дзяржаўнага універсітэта, была прадыягнаставана грамадская думка ў дачыненні да змен у сацыяльна-эканамічным развіцці краіны і бліжэйшых перспектыў. Атрыманыя вынікі настолькі паказальныя, што дазваляюць больш грунтоўна зразумець нас, беларусаў, як народ, як нацыю... У апытанні па квотна-прапарцыянальнай выбарцы ўдзельнічалі 1500 жыхароў Полацка і Наваполацка. Выбарка рэпрэзентатыўная. Даследаванне праведзена пры падтрымцы БФС.

З тым, што за апошнія паўтара года эканамічнае становішча на Беларусі пагоршылася, згодны 48,9 працэнта жыхароў Наваполацка і 46,3 — Полацка, прычым у тым, што значна пагоршылася, перакананы адпаведна 21,2 і 16,7 працэнта. 30,1 працэнта палачан і 24,5 працэнта навапалачан лічаць, што яно засталося такім жа, якім было і раней, а астатнія — што нават палепшылася.

Адносна магчымых змен у бліжэйшыя паўтара года 40,3 працэнта навапалачан і 39,0 працэнта палачан спадзяюцца на перамены да лепшага, а ўпэўнены ў гэтым —адпаведна 7,5 працэнта і 6,5 працэнта. Асцерагаюцца перамен да горшага 28,7 працэнта жыхароў Наваполацка і 31,4 працэнта — Полацка, а перакананы менавіта ў такім разгортванні працэсаў — адпаведна 6,9 і 7,1 працэнта.

Як жа будуць паводзіць сябе гараджане, калі становішча ў дзяржаве будзе пагаршацца? Аб гэтым яскрава сведчаць даныя наступнай табліцы (у працэнтах):

| | | Полацк | | Наваполацк | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Люты | Верасень | Люты | Верасень |
| 1. | Буду цярпліва чакаць перамен да лепшага | 31,9 | 33,7 | 26,6 | 27,5 |
| 2. | Буду самастойна шукаць шляхі паляпшэння свайго матэрыяльнага становішча | 46,8 | 51,1 | 47,7 | 49,1 |
| 3. | Буду ўдзельнічаць у акцыях пратэсту | 15,8 | 6,9 | 15,4 | 12,5 |
| 4. | Стану на шлях процідраўных дзеянняў | 1,6 | 2,0 | 2,7 | 2,5 |
| 5. | З'еду ў іншую краіну | 2,9 | 4,8 | 4,8 | 7,1 |
| 6 | Іншае | 1,6 | 1,5 | 4,1 | 1,3 |

Як бачым, менталітэт большасці жыхароў падказвае выйсце праз цярпенне і самастойны пошук. Гэта той аванс, які ў чарговы раз даецца насельніцтвам кіраўніцтву дзяржавы са спадзяваннем на хутчэйшае знаходжанне аптымальных варыянтаў вырашэння складаных сацыяльна-эканамічных праблем. Звернем увагу і на тую акалічнасць, што з лютага па верасень амаль удвая павялічыліся паказчыкі маючых намер з'ехаць у іншую дзяржаву, а пераважаюць сярод іх спецыялісты і маладыя людзі ва ўзросце 18—29 гадоў.

**В. ШАЙКОЎ,**
**загадчык кафедры гісторыі і сацыялогіі Полацкага дзяржаўнага універсітэта.**

*«ГАРАЧЫЯ» ТЭЛЕФОНЫ «ЗВЯЗДЫ» — 268-28-72 І 268-27-51*

# Здароў, мой бедны брат студэнт...

Умовы атрымання зараз адукацыі з часоў Міхаіла Ламаносава амаль не змяніліся. Як і раней, спадарожнікамі сучасных «шкаляроў» застаюцца неналежнае харчаванне, холад, строгія рамкі правілаў-інструкцый. У гэтым запэўніла чытачка з Нясвіжа, патэлефанаваўшы нам на «гарачую» лінію.

З размовы ўдалося даведацца пра даволі сумнае становішча навучэнцаў Нясвіжскага педкаледжа. Перш за ўсё стыпендыя — асноўная частка студэнцкага бюджэту, своечасова не выплачваецца. Так, за верасень, як сведчыць чытачка, атрымалі навучэнцы грошы толькі 22 кастрычніка. Кіраўніцтва каледжа тлумачыць затрымку з выплатай сваёй вялікай запазычанасцю адпаведным установам за газ, святло, іншыя бытавыя паслугі. Відаць, менавіта па гэтай прычыне вельмі слаба грэюць у каледжы батарэі. Наперадзе — зіма з маразамі, у пакоях навучальнай установы не скажаш, каб было цёпла, а ў перспектыве яшчэ і тапкі трэба будзе з хаты цягнуць з сабою — уводзяць зменны абутак. Аднак гэта яшчэ не прычына для таго, каб бедаваць, калі б хто-небудзь прыглядаў за пакінутымі ля ўваходу ботамі і чаравікамі. А так без пільнага вока, хвалююцца бацькі, абутак можа раптоўна знікнуць. Да таго ж самі настаўнікі зусім не збіраюцца пераходзіць на «зменку». Вучням жа крыўдна...

Потым яшчэ заняткі. Занепакоеная маці, што патэлефанавала да нас, вельмі перажывае з-за нервовай сістэмы сваёй дачкі, бо ў той заняткі працягваюцца больш за восем гадзін. Прыходзіць дзяўчынка дамоў ужо прыцемкамі (прыцемкамі ж і ідзе ў каледж). Вельмі мерзне, бо асобам жаночага полу хадзіць у штанах строга забаронена. Толькі ў спадніцах прапускаюць...

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

**Паважаныя чытачы, тэлефануйце да нас, дзяліцеся сваімі клопатамі і хваляваннямі. Разам, вядома, лягчэй змагацца з няшчасцямі. Тэлефоны нашай «гарачай» лініі (268-28-72 і 268-27-51) працуюць кожны дзень з 10 да 13 гадзін.**

# ВОСЕНЬ. ПРАВЕРЦЕ АЦЯПЛЯЛЬНЫЯ ПРЫБОРЫ

Невясёлыя лічбы. Як паведамілі нам у Галоўным упраўленні ваенізаванай пажарнай службы, толькі за мінулыя выхадныя ў краіне адбылося 107 пажараў. Агнём знішчана ці пашкоджана 69 пабудоў, 127 тон кармоў і 7 адзінак тэхнікі. Загінулі пяць чалавек. На шчасце, яшчэ шэсць пагарэльцаў удалося выратаваць.

Сапраўдная трагедыя адбылася ў в. Барысаўшчына Хойніцкага раёна — тут у выніку пажару загінула адразу двое дзяцей. Паводле папярэдніх ацэнак, прычынай надзвычайнага здарэння стала карыстанне самаробнымі ацяпляльнымі прыборамі ў той час, калі ў хаце не было бацькоў.

Між тым, выпадак гэты павінен стаць хоць сумнай, але падставай для адпаведных высноў. Наперадзе халоднае надвор'е, таму пажарнікі ўжо сёння раюць паклапаціцца аб спраўнасці ацяпляльных прыбораў і асабліва печак, а таксама ні ў якім разе не пакідаць дзяцей без нагляду.

**Сяргей ГРЫБ.**

***Міхаіл ХВОСТАЎ:***

# «АЗІЯЦКІ НАКІРУНАК ЗАЙМАЕ ЎСЁ БОЛЬШАЕ МЕСЦА Ў НАШАЙ ЗНЕШНЯЙ ПАЛІТЫЦЫ»

***З Міхаілам Хвоставым, намеснікам міністра замежных спраў, які курыруе пытанні адносінаў з краінамі Азіі, гутарыць карэспандэнт «Звязды».***

**— Азія — гэта не толькі самы вялікі кантынент планеты, але, на мой погляд, і самы складаны па розных шматлікіх прычынах для нашага, калі можна так сказаць, палітычнага і эканамічнага асваення. Тым не менш, беларуская дыпламатыя пакрысе робіць гэту справу. І, як мне здаецца, нялёгную справу. Ці я памыляюся?**

— Сапраўды, калі зірнуць на карту свету, то мы ўбачым велізарны кантынент, які так не падобны на нашу родную Еўропу. Кантынент, дзе асобныя і нярэдка суседнія краіны вельмі адрозніваюцца між сабой палітычным ладам і ступенню эканамічнага развіцця, гістарычнай і культурнай спадчынай, адносінамі да рэлігіі. Але гэта азіяцкая спецыфіка не павінна нас засмучаць, яе трэба ўспрымаць як пэўную данасць.

У Азіі, нягледзячы на яе маштабы, краін налічваецца не так ужо і шмат— 38. Для параўнання: у Еўропе — 50 дзяржаў, у Афрыцы — 53, Амерыцы — 35, Аўстраліі і Акіяніі — 14.

Што датычыць адносінаў Беларусі з Азіяй, то як вы разумееце, тут складанасць не ў колькасці краін, а ў першую чаргу ў своеасаблівасці гэтага кантынента.

Ускладняе, а калі быць больш дакладным, тармозіць прасоўванне нашых інтарэсаў у краінах Азіі і тое, што нас там, з аднаго боку, мала ведаюць, а з другога — мы там даволі сціпла прадстаўлены. Хаця ў апошні час назіраюцца станоўчыя зрухі — актывізаваліся кантакты, мацнеюць былыя і завязваюцца новыя сувязі з азіяцкімі краінамі на высокім узроўні. Іх паслы ў Беларусі, у пераважнай большасці па сумяшчальніцтву, усё часцей праяўляюць цікавасць да нас.

Такім чынам, сёння назіраецца ўзаемная зацікаўленасць ва ўсталяванні трывалых адносінаў паміж Беларуссю і краінамі Азіяцкага рэгіёна.

**— Але тут паўстае неўміручае славянскае пытанне: «Што рабіць?» Ці, інакш кажучы, як увасобіць у канкрэтныя выгадныя для нас праекты і дагаворы гэтыя перспектывы, каб іх не напаткаў сумны лёс многіх пратаколаў аб намерах, якія ў свой час падпісалі прадстаўнікі нашай краіны з фірмамі розных краін?**

— На гэту праблему я паспрабую глянуць з іншага боку. Агульнавядома, што палітычныя кантакты і дамоўленасці заўсёды папярэднічаюць і садзейнічаюць наладжванню трывалых гандлёва-эканамічных сувязей. Асабліва гэта датычыць азіяцкіх краін, якія зусім не побач з Беларуссю. Таму кантакты на ўзроўні міністэрстваў замежных спраў, візіты нашых афіцыйных асоб, усталяванне дыпламатычных адносінаў — тыя першыя і ў многім неабходныя крокі для далейшага развіцця шматграннага супрацоўніцтва.

Дарэчы, з многімі азіяцкімі дзяржавамі мы ўжо маем дыпадносіны, з асобнымі з іх — Кітаем, Індыяй, Турцыяй, Ізраілем, Іранам, Пакістанам удалося агульнымі намаганнямі залажыць трывалую дагаворна-прававую базу. Асабліва з Кітаем. Наконт іншых краін...

На жаль, велізарныя адлегласці і абмежаванасць нашага ведамства ў валюце ў значнай ступені стрымліваюць пранікненне Беларусі ў Азію.

У гэтай сувязі мне хочацца прыцягнуць увагу вось да якой праблемы. У нас у грамадскай свядомасці склалася не зусім правільнае ўяўленне аб дзейнасці дыпламатычных прадстаўніцтваў за мяжой. Пасольства, як чамусьці лічыцца, гэта абавязкова калі не шыкоўны, дык ва ўсякім разе ўтульны камфартабельны асабняк з немалым штатам супрацоўнікаў, тэхнічным персаналам і паркам аўтамабіляў. Так, адкрыццё пасольства ў традыцыйным, класічным выглядзе — вельмі дарагое задавальненне для бюджэту.

Аднак у сваю чаргу без дыпламатычных прадстаўніцтваў мы нясём велізарныя страты, недаравальна слаба расце экспарт беларускіх тавараў. У дадзенай сітуацыі наша міністэрства прапаноўвае пайсці наступным шляхам: у перспектыўных для нас краінах адкрываць пасольствы з вельмі абмежаванай колькасцю супрацоўнікаў і мінімумам маёмасці. Скажам, накіроўваць туды пасла, малодшага дыпламата і консульскага работніка. Арандаваць ім невялікае памяшканне. Нават і не абавязкова пасла, а дыпламата ў рангу саветніка, які б год-паўтара выконваў абавязкі часовага паверанага. Ужо адно гэта прыцягне да сябе ўвагу палітычных і дзелавых колаў краіны знаходжання, дазволіць наладзіць патрэбныя сувязі.

Хачу падкрэсліць, што мы тут нічога новага не выдумляем. Падобная практыка выкарыстоўваецца многімі краінамі з пераходнай эканомікай і дае плён.

**— Як азіяцкі вектар нашай дыпламатыі ўлічаны ў сумеснай беларуска-расійскай знешнепалітычнай праграме, распрацоўка якой, калі не памылюся, ужо завершана?**

— Гэта праграма супрацоўніцтва паміж міністэрствамі замежных спраў Беларусі і Расіі. Яна ў першую чаргу «закрывае» палітычныя пытанні. У нас ёсць дамоўленасць з расійскімі калегамі аб тым, што іх замежныя ўстановы будуць аказваць дапамогу (і ўжо аказваюць) нашым людзям — прамыслоўцам, прадпрымальнікам у тых краінах, дзе Беларусь не мае сваіх прадстаўніцтваў. Але гэта, падкрэслю, выключна палітычная і маральная падтрымка. Усё астатняе, што звязана з замацаваннем нашых інтарэсаў у Азіі, а таксама ў Афрыцы і Лацінскай Амерыцы, нам трэба рабіць самім.

**— Наколькі я ведаю, у міністэрствах замежных спраў Расіі, ЗША, іншых краін праблематыкай Азіі не адно дзесяцігоддзе займаецца вялікая колькасць прафесіяналаў— дыпламатаў, даследчыкаў і аналітыкаў, палітолагаў розных дзяржаўных і недзяржаўных цэнтраў, асацыяцый і г. д. А як у нас?**

— Мы пакуль не можам пахваліцца такім глыбокім і шматгадовым вывучэннем Азіяцкага рэгіёна па зразумелых, думаю, для ўсіх прычынах. Цяпер гэта праца вядзецца на розных узроўнях. Напрыклад, у нашым міністэрстве ёсць аддзел краін Азіі і Афрыкі, у якім усяго шэсць дыпламатаў. Гэта вельмі і вельмі мала на 35 краін. І мы вымушаны ставіць пытанне аб павелічэнні ў МЗС колькасці спецыялістаў па Азіі і стварэнні адпаведнага ўпраўлення.

Але сёння, адначасова з яе даследаваннем у Беларусі, на мой погляд, больш важна ўмацняць нашу прысутнасць на кантыненце. У нас надзвычай мала — неадэкватна важнасці Азіі для нашай краіны, пасольстваў у яе дзяржавах. Толькі ў Кітаі, Ізраілі, Японіі.

Вось і ўсё. Толькі тры пасольствы на складаны і, паўтаруся, перспектыўны для Беларусі кантынент. Скажыце, якім чынам нам наладжваць сувязі са сталіцамі яго дзяржаў? Па факсе ці тэлефоне? У Азіі, між іншым, асаблівае значэнне надаюць усталяванню асабістых кантактаў у час нетаропкай гутаркі.

Каб паспяхова так працаваць, трэба добра ведаць гісторыю, культуру, традыцыі і звычаі яе народаў з першых рук, а не з чыёсці слоў. Адсюль у краінах Захаду і вялікая колькасць спецыялістаў, якія прафесіянальна займаюцца даследаваннем Азіі. Прычым не толькі кантынента ў цэлым, а яго важнейшых рэгіёнаў — Паўднёвай, Усходняй, Цэнтральнай, Паўднёва-Усходняй, Паўднёва-Заходняй Азіі і г. д.

**— Давайце крыху «пройдземся» па вышэйназваных рэгіёнах. Чаго мы там дасягнулі, у тым ліку ў дыпламатычным і знешнеэканамічным плане за гады самастойнасці?**

— Возьмем Паўднёвую Азію — найбольш густанаселеную частку зямнога шара. За выключэннем Бутана і Шры-Ланкі, з іншымі краінамі рэгіёна — Індыяй, Пакістанам, Бангладэш, Непалам, Мальдыўскай Рэспублікай мы ўстанавілі дыпламатычныя адносіны. Наш гадавы знешнегандлёвы абарот з гэтымі краінамі ў параўнанні з патэнцыяльнымі магчымасцямі больш чым сціплы і трымаецца на ўзроўні 80—90 мільёнаў долараў. Суцяшае, што мы нядаўна пачалі самастойна весці там справы. Але ўжо досыць хадзіць у навічках, настаў час больш энергічных дзеянняў.

**— У гэтым з вамі цяжка не пагадзіцца, але калі браць эканамічны бок, чым канкрэтна мы можам зацікавіць гэтыя аграрныя краіны, якія імкліва развіваюцца?**

— Так, аграрная скіраванасць іх відавочная. Аднак я не стаў бы недаацэньваць іх узрастаючы прамысловы патэнцыял, асабліва Індыі і Пакістана. Нам замінае, што ў гэтым рэгіёне адсутнічае буйная горназдабыўная галіна і таму няма патрэбы ў нашых «БелАЗах». Але добра развітая лёгкая прамысловасць, выпрабляецца шмат тэкстылю, джуту, чаю, што патрабуе адпаведнай інфраструктуры. І тут мы маглі б заняць сваю нішу, напрыклад, прапанаваць свае паслугі ў будаўніцтве чыгункі і аўтадарог. У нас усё ёсць для гэтага: вопыт падобных работ, кваліфікаваныя кадры, неабходнае абсталяванне.

Пакістан, пры спрыяльным развіцці нашага супрацоўніцтва, можа стаць буйным спажыўцом беларускіх трактароў. Хаця гэтай краіне свае трактары ўпарта прапаноўваюць палякі і кітайцы, але мы маем добрыя шанцы перамагчы ў канкурэнтнай барацьбе. Акрамя калійных угнаенняў, станкоў, запасных частак у рэгіёне праяўляюць цікавасць да прадукцыі нашай парашковай металургіі. Аднак зноў жа няма каму ў гэтай краіне прасоўваць і адстойваць нашы інтарэсы: у Пакістане няма не тое што пасольства, а нават консульства ці гандлёвага прадстаўніцтва.

Між іншым, пра вучобу. У нас добрыя па сусветных стандартах вышэйшая школа і прафесіянальная адукацыя. Мы маглі б для краін гэтага рэгіёна рыхтаваць нацыянальныя кадры. За плату, разумеецца. Чым, дарэчы, многія нашы ВНУ раней з поспехам займаліся многія гады.

**— Цяпер давайце кінем пагляд на Усходнюю і Цэнтральную Азію. Мы бачым Манголію, Кітай, Паўднёвую Карэю, КНДР, Японію. Ёсць яшчэ Ганконг і Тайвань.**

— Гэта вельмі неаднародны і дынамічны ў палітычным і эканамічным плане рэгіён. Тут найбольш перспектыўным і зразумелым для нас партнёрам з'яўляецца Кітай. Створаны выдатныя палітычныя ўмовы для эканамічнага супрацоўніцтва з гэтай краінай. Мы шмат прайграем, калі не выкарыстаем наяўныя магчымасці ў бліжэйшы час. Там мы пакуль яшчэ маем сваю нішу, але за неабсяжны рынак Кітая абвастраецца барацьба заходніх канкурэнтаў. І калі мы будзем марудзіць, то, несумненна, нас хутка выцісnуць адтуль больш разваротлівыя і вынаходлівыя заходнія і азіяцкія фірмы.

Нам трэба вучыцца ў іх выкарыстоўваць любую магчымасць для атрымання прыбытку. У гэтым сэнсе нават Манголія абяцае стаць выгадным партнёрам. Яна праяўляе каласальную зацікаўленасць у нашых трактарах і звычайных спажывецкіх таварах.

Японія, зразумела, падобнай патрэбы не адчувае ў беларускай прадукцыі. Наш экспарт туды складае ўсяго 5 млн. долараў: прадаём матацыклы і калійныя ўгнаенні. Але гэта краіна цікавая для нас як буйнейшы патэнцыяльны інвестар з велізарнымі фінансавымі рэсурсамі. Пакуль Японія асцярожна ўкладвае грошы ў нашу эканоміку. Мы атрымалі больш як 50 тыс. долараў на мадэрнізацыю завода кампрэсараў у Баранавічах, 5 млн. — пад ядзернае раззбраенне. Краіна аказвае нам значную гуманітарную дапамогу ў ліквідацыі наступстваў Чарнобыля. Толькі грамадскі фонд Сасакавы выдзеліў на гэтыя мэты каля 10 млн. долараў.

Не менш перспектыўным абяцае стаць супрацоўніцтва з Паўднёвай Карэяй. Экспарт наш туды сёння таксама мізэрны — каля 5 млн. долараў. Гэта ў многім тлумачыцца тым, што яшчэ да нядаўняга часу ў нас адсутнічалі палітычныя кантакты з краінай. Цяпер у нас акрэдытаваўся па сумяшчальніцтву яе пасол, плануецца візіт Прэзідэнта А. Р. Лукашэнкі ў гэтую краіну. Нам таксама, як у Японіі, ёсць чаму павучыцца ў Паўднёвай Карэі і ёсць што ёй прапанаваць.

**— Мы пакрысе пачынаем асвойваць арабскі Усход, які па- ранейшаму застаецца для нас шмат у чым загадкавай і таямнічай часткай Азіі. На што там можа разлічваць Беларусь? Якія перспектывы прыцягнуць «нафтадолары» ў нашу эканоміку?**

— Рэгіён Паўднёва-Заходняй Азіі тоіць у сабе ўвогуле каласальныя магчымасці. Пытанне ў тым, як іх рэалізаваць. Там мы маем пасольства толькі ў Ізраілі, якое «закрывае» ўвесь Блізкі Усход. Што яўна недастаткова. Акрамя таго, весці справы з Тэль-Авіва з арабскімі краінамі не зусім зручна па многіх пазіцыях.

Але візіты беларускіх афіцыйных дэлегацый у гэты рэгіён пацвярджаюць гатоўнасць краін Паўднёва-Заходняй Азіі гандляваць з намі. Там ахвотна набываюць нашы станкі, оптыку, халадзільнікі, сельскагаспадарчую тэхніку. У ходзе апошняга візіту дэлегацыі Беларусі ў гэты рэгіён на чале з віцэ-прэм'ерам Уладзімірам Русакевічам, арабам намі было прапанавана 9 праектаў, якія яны маглі б інвесціраваць. Хутка прыедуць эксперты для іх вывучэння і абмеркавання.

Не так даўно Іран пацвердзіў у наладжванні ў сябе вытворчасці па зборцы 1500 беларускіх трактароў у год.

**— Прабачце, Міхаіл Міхайлавіч. Асобныя станоўчыя прыклады ўсё ж не робяць пагоды. У цэлым жа асваенне азіяцкіх прастораў не адпавядае эканамічнаму патэнцыялу Беларусі. У чым тут прычыны?**

— Некаторыя я ўжо назваў. Маё глыбокае перакананне — наспеў час распрацаваць дзяржаўную праграму развіцця знешняга гандлю з Азіяй. І калі яна будзе глыбока прадумана, прынята ўрадам і адпаведным чынам прафінансавана, то тады мы можам разлічваць на поспех. А шанцы ёсць, і немалыя.

**Гутарыў Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## БЕЛАРУСКАЕ МІНІСТЭРСТВА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ З НЕЎРАЗУМЕННЕМ АДНЕСЛАСЯ ДА ПАЛІТЫЗАВАНАГА ТОНУ РЭЗАЛЮЦЫІ ЕЎРАПАРЛАМЕНТА

**У сувязі з прыняццем 24 кастрычніка Еўрапейскім парламентам рэзалюцыі аб сітуацыі ў Беларусі Міністэрства замежных спраў нашай рэспублікі распаўсюдзіла адпаведную заяву.**

«Кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь расцэньвае факт прыняцця гэтай рэзалюцыі перш за ўсё як сведчанне цікавасці і ўвагі да працэсу палітычных і сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў у нашай краіне, — гаворыцца ў дакуменце беларускага міністэрства. — Заклапочанасць еўрапейскіх палітыкаў ходам рэформаў, якая выказваецца ў тым ліку і ў сценах вышэйшага парламенцкага сходу Еўрапейскага саюза, заўсёды ўспрымалася ў Беларусі з належнай сур'ёзнасцю і разуменнем».

МЗС Беларусі лічыць пазітыўным той факт, што ў Еўрапарламенце ведаюць і па заслугах ацэньваюць важныя крокі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі па пошуку, выключна ў рамках канстытуцыйнага прававога поля, шляхоў дасягнення палітычнага кампрамісу, устанаўленню міру і згоды ў грамадстве, ажыццяўленню сацыяльна-эканамічных рэформаў.

Разам з тым знешнепалітычнае ведамства нашай рэспублікі не можа пакінуць без увагі той факт, што шэраг палажэнняў рэзалюцыі Еўрапейскага парламента выходзяць за рамкі адказнага і канструктыўнага партнёрскага дыялогу, заснаванага на павазе суверэнных правоў бакоў. У МЗС Беларусі выклікае шкадаванне агульны яўна палітызаваны тон дакумента, багацце ў ім недастаткова вытрыманых фармулёвак, якія ў шэрагу выпадкаў страцілі сваю актуальнасць. «Беларускі бок не можа прыняць і паспешлівых спроб, што робяцца звонку, прадвызначыць зыход усё яшчэ існуючага пошуку рэальных шляхоў кампрамісу ў ажыццяўленні канструктыўнай рэформы ў краіне», — лічыць беларускае міністэрства.

Знешнепалітычнае ведамства выказвае глыбокае неўразуменне і абурэнне наконт спроб адвольна кваліфікаваць канстытуцыйную форму дзяржаўнага праўлення ў Беларусі як аўтарытарную. Такія ацэнкі, на думку МЗС, абсалютна недапушчальныя.

«Беспадстаўныя і нават небяспечныя імкненні ўвязаць складанасці ўнутрыпалітычнай сітуацыі ў Беларусі з пытаннямі міжнароднай бяспекі, — гаворыцца ў дакуменце міністэрства. — Выступіўшы адным з піянераў працэсу рэальнага ядзернага раззбраення, наша рэспубліка ніколі не давала падставы сумнявацца ў сваім нязменна адказным і паслядоўным падыходзе да выканання абавязацельстваў па вывазу ядзернай зброі са сваёй тэрыторыі. Каментарыі парламенцкага органа ЕС, якія ўскосна ставяць пад сумненне прыхільнасць урада Беларусі да строгага выканання сваіх абавязацельстваў па міждзяржаўных пагадненнях у сферы бяспекі, не могуць быць расцэнены інакш як некарэктныя, недарэчныя, якія выклікаюць шчырае шкадаванне».

Ультыматыўнае па сутнасці рашэнне Еўрапейскага парламента прыпыніць працэс ратыфікацыі Пагаднення аб партнёрстве і супрацоўніцтве, а таксама ўвядзення ў дзеянне Часовага пагаднення аб гандлі паміж ЕС і Беларуссю, як лічыць беларускае Міністэрства замежных спраў, наўрад ці адпавядаюць духу працэсаў агульнаеўрапейскай інтэграцыі.

Беларусь перажывае сёння нялёгкі перыяд сваёй гісторыі. На шляху стварэння дэмакратычнага грамадства і правядзення рыначных рэформаў сустракаецца нямала цяжкасцей. У грамадстве існуюць самыя розныя думкі адносна найбольш прымальных шляхоў і спосабаў іх пераадолення. Гэта натуральная з'ява. Прынцыповым жа момантам у такой сітуацыі, як гаворыцца ў заяве МЗС нашай рэспублікі, з'яўляецца рашучасць вышэйшых органаў дзяржаўнай улады Беларусі забяспечыць палітычны дыялог і працэс пошуку рашэнняў у грамадстве на аснове захавання сацыяльнай стабільнасці ў краіне, безумоўнага захавання асноўных правоў і свабод чалавека, павагі агульнапрынятых дэмакратычных прынцыпаў і нормаў.

«У сённяшняй сітуацыі толькі максімальна аб'ектыўны і непрадузяты падыход да рэальных праблем Беларусі з боку нашых замежных партнёраў здольны ўнесці важкі канструктыўны ўклад у працэс маштабных сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў у краіне і больш хуткай інтэграцыі Беларусі ў адзіную Еўропу», — падкрэсліваецца ў заяве Міністэрства замежных спраў нашай рэспублікі.

**БЕЛТА.**

## МІНІСТРЫ АБАРОНЫ КРАІН САДРУЖНАСЦІ СУСТРЭНУЦЦА Ў ДУШАНБЕ

**Абмеркаванню пытанняў каардынацыі дзейнасці абаронных ведамстваў СНД будзе прысвечана пасяджэнне міністраў абароны краін Садружнасці, якое адкрываецца 29 кастрычніка ў Душанбе.**

У ім прымуць удзел міністр абароны Расійскай Федэрацыі генерал арміі Ігар Радзівонаў, міністр абароны Беларусі генерал-лейтэнант Леанід Мальцаў, а таксама кіраўнікі ваенных ведамстваў усіх краін СНД, акрамя Малдовы і Туркменістана.

На сустрэчы плануецца разгледзець дванаццаць дакументаў, у тым ліку «Аб сітуацыі ў Цэнтральна-азіяцкім рэгіёне», «Аб плане правядзення сумесных мерапрыемстваў аб'яднанай сістэмы проціпаветранай абароны дзяржаў—удзельніц СНД», «Аб асноўных напрамках рэалізацыі канцэпцыі прадухілення і ўрэгулявання канфліктаў на тэрыторыі дзяржаў Садружнасці» і інш.

Перад адкрыццём пасяджэння яго ўдзельнікі будуць прыняты прэзідэнтам Таджыкістана Эмамалі Рахмонавым, які азнаёміць кіраўнікоў абаронных ведамстваў СНД з ваенна-палітычнай сітуацыяй у рэспубліцы.

**БЕЛТА.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Аэрапорт «Шарль дэ Голь», галоўная паветраная гавань французскай сталіцы, стаў багатым паляўнічым месцам. Яго аблюбавалі трусы, якія лёгка навучыліся пераадольваць электрафікаваныя агароджы і прарываць хады пад бетоннымі ўзылётна-пасадачнымі палосамі. Грызуны, колькасць якіх вызначаецца спецыялістамі ў 50 тысяч штук, сталі сапраўдным бедствам для службаў аэрапорта. Трусы сотнямі бегаюць уздоўж узлётных палос, ствараючы пэўную небяспеку для авіялайнераў. Для барацьбы з трусамі запрошана каманда паляўнічых.

**Асашыэйтэд Прэс.**

Жыхар Тулузы, 22-гадовы Тона Санціні, у знак пратэсту супраць прызыву на ваенную службу, якая ў Францыі застаецца пакуль яшчэ абавязковай для маладых здаровых мужчын, заявіў, што ён будзе жыць на дрэве ля будынка гарадскога суда. На яго галінах ён змайстраваў драўляную платформу, на якой устанавіў столік, крэсла і маленькі халадзільнік, а на суседніх галінах — умывальнік і туалет. Аднак на дрэве яму прыйшлося правесці значна менш часу, чым ён разлічваў. Літаральна на наступны дзень яму на дрэва падалі позву з ваеннага трыбунала.

**Асашыэйтэд Прэс.**

Адзін малады бельгіец пабіўся аб заклад са сваім сябрам, што не спужаецца пагладзіць тыгра. Позна ўвечары яны прабраліся ў звярынец брусельскага цырка, падышлі да клеткі, дзе спаў тыгр, спорышчык прасунуў руку паміж прутоў і сапраўды тыгра пагладзіў. Але тыгр, відаць, не ацаніўшы ласкі, раптам адхапіў у прышэльца кісць. Заклад ён выйграў, але ж яму прыйшлося і заплаціць. Прычым вельмі дорага.

**ІТАР-ТАСС.**

*МОДА*

# Стыль Жаклін Кенэдзі і восенню ў модзе

**Мабыць дзеля таго, каб хоць крыху палепшыць восеньскі, пераважна сумны настрой, мадэльеры на гэты сезон прапануюць яркія колеры: напрыклад, чырвоны ў спалучэнні з белым і чорным.**

Чырвонаму адведзена галоўная роля: у перыяд жоўтага лісця трэба насіць не толькі чырвоныя капялюшыкі, але і туфлі і такія ж сумкі. Асноўны акцэнт, дарэчы, якраз на абутку і сумцы. Нават калі апошніх прадметаў туалету патрэбнага колеру ў вашым гардэробе няма, можна абмяжавацца дробяззю: уцягнуць у туфлі чырвоныя шнуркі. Пры гэтым абутак абавязкова павінен быць белым ці чорным або чорна-белым. Як, дарэчы, і касцюм.

Крысціян Дзіёр яшчэ на вясну мінулага года прапанаваў жанчынам касцюм з жакета і спадніцы ў белачорныя дробныя ромбікі. Сёння да гэтага малюнка далучаецца малюнак «ёлачка». А вось блуза ці кашуля — проста чырвоныя, без усякіх дадатковых элементаў.

Бягучы восеньскі сезон ніякіх рэвалюцыйных змяненняў у галіне формаў і сілуэтаў не прынёс. Па-ранейшаму папулярныя жакеты да таліі і да лініі клубоў з каўнерыкам і некалькімі кішэнькамі. Жакеты зашпіляюцца або на адзін рад гузікаў да самага верху, або на металічную маланку. Рукавы вузкія, прамыя, без гузікаў і клапанаў, нярэдка быццам бы караткаватыя. Часта жакет выконваецца з белай тканіны ці трыкатажу, а ніз рукавоў і жакета, а таксама край каўняра аздабляецца чорнай вузкай палоскай. Доўгія жакеты перацягваюцца ў таліі шырокім ці вузкім рамянём у колер. Прычым спражка таксама таго ж колеру і ні ў якім разе не бліскучыць танным золатам ці срэбрам. Як і гузікі. Яны таксама падбіраюцца ў тон.

Спадніцы — традыцыйнай формы і даўжыні. Прамыя, да сярэдзіны ці крыху ніжэй калена. З невялікім разрэзам з правага боку. Акурат такія, як насіла Мэдзі Хэйс з дэтэктыўнага агенцтва «Месяцавае святло».

Штаны модныя даволі вузкія, а каб лепш падкрэсліць фігуру, да іх надзяваюцца трыкатажныя аблягаючыя вадалазкі. Яны звычайна з белай і чырвонай пражы, звязаныя «рэзінкай». Світэры таксама аднаколерныя, але грубай вязкі — пышная «англійская рызінка». Сукенка «а ля Жаклін Кенэдзі» і ў восеньскі перыяд знаходзіцца ў полі зроку модніц. Толькі цяпер яна з трыкатажнага палатна і выконвае ролю сарафана ў камплекце з вадалазкай у рубчык.

Даўжыня паліто і плашчоў умоўная — яны ледзь дасягаюць сярэдзіны калена, так што сагрэць такая вопратка можа хіба што ў сонечны восеньскі дзень. Верхняе адзенне таксама перахопліваецца ў таліі поясам. Каўнер вялікі, высокія манжэты на рукавах. Калі плашчы шыюцца пераважна з вініла, то паліто — з букліраванай воўны. Палярыны, якія ўсё больш падабаюцца жанчынам, аздабляюцца «маланкамі». Дарэчы, гэтая дэталь «перабралася» са скураных куртак, якія сёлета таксама максімальна ўкараціліся: іншы раз яны ледзь даходзяць да таліі. Калі ў вас пераважае цяга да ўсяго маленькага, то сціплае, прылягаючага сілуэта паліто, што зашпіляецца ля самай шыі, — знаходка. Дарэчы, такое паліто Жаклін таксама насіла.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## ЦІ БЯСПЕЧНЫЯ ЗАМЕЖНЫЯ ШАМПУНІ?

***Прывітанне, «Пытальнік»! Зараз шмат рэкламуюць розных тавараў, у тым ліку і шампуняў для мыцця валосоў. Ці не шкодныя такія шампуні замежнай вытворчасці, як «Heap & Shovlders», «Pantene PRO-V», «Ultra Doux», «Elseve» і іншыя?***

***Як кажуць, рэклама рэкламай, а здароўе — на першым месцы. Спадзяюся атрымаць кваліфікаваны адказ спецыялістаў.***

**І. ПЯТРОЎ**, г. Мазыр.

Мы звярнуліся да кіраўніка лабараторыі імуналогіі і алергалогіі Беларускага навукова-даследчага санітарна-гігіенічнага інстытута Віталя Шаўлякова. Каб пазбегнуць залішняй грувасткасці тэксту (прыйшлося выслухаць сапраўдную лекцыю з гэтай нагоды), спынімся толькі на галоўных момантах гутаркі. Так, найперш шампунь трапляе да нас не інакш як з суправаджальнымі дакументамі (сертыфікат вытворчасці, мытная дэкларацыя, нават афіцыйна зацверджаны пераклад і г. д.). Затым падаецца заяўка на рэгістрацыю таго ці іншага ўвозімага тавару. Ёй папярэднічаюць шматлікія экспертызы, прычым узоры для даследаванняў выбірае не камерсант ці фірма, а афіцыйныя органы, якія апячатаюць іх і адправяць разам з суправаджальнымі дакументамі. У лабараторных умовах вывучаюць знешні від касметычнай прадукцыі (у тым ліку і шампуняў), колер, пах, утрыманне таксічных элементаў, раздражняльнае ўздзеянне, якое даследуецца на жывёлах і добраахвотніках (не менш як шэсць чалавек павінны, напрыклад, памыць галаву шампунем). Калі даследуюцца дзіцячыя прэпараты, у эксперыментах удзельнічаюць і дзеці. На падставе атрыманых вынікаў аддзел гігіенічнай рэгламентацыі Міністэрства аховы прыроды дае дазвол (ці адмаўляе) на продаж. Як паведаміў кіраўнік гэтага аддзела Міхаіл Серафімавіч, дазвол даецца звычайна на 1 год. За гэты час вывучаюцца магчымыя скаргі, затым прымаецца рашэнне аб падаўжэнні тэрміну рэгістрацыі. Калі фірма-вытворца сур'ёзная, вырашаецца пытанне аб атэстацыі прадукцыі згодна з беларускімі патрабаваннямі непасрэдна на месцы, куды выязджае спецыяльная камісія. Кантроль працягваецца і далей, прычым у розных лабараторыях. Што датычыцца падробак, у сусветна вядомых фірмаў яны сустракаюцца надзвычай рэдка, а ўсе іх прадстаўніцтвы таксама праходзяць кантроль. Іншымі словамі, усе вышэйпералічаныя шампуні цалкам бяспечныя для здароўя.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 29 кастрычніка

### Беларускае тэлебачанне

**7.50** Эканамікст. **8.00** Навіны. **8.15** «Гэта мы не праходзілі...» Гісторыя банкаўскай сістэмы Беларусі. Эканамічная праграма. **8.30** Абібок. **9.00** Тэлебачанне — школе. Пазакласнае чытанне. 4-ы клас. Анатоль Клышка. «Францыск Скарына, альбо Як да нас прыйшла кніга». **9.20** «Блукаючыя агеньчыкі». Маст. фільм. 2-я серыя. **10.25** Тураб'ектыў. **10.35** «Трапічная спёка». 4-я серыя. **11.55** Акалада. Музычна-забаўляльная праграма. **12.25** «Крыж міласэрнасці». Маст. фільм («Беларусьфільм»). 3-я і 4-я серыі. **15.00** Навіны. **15.10** «У Мумі-Дол прыходзіць восень», «Мук-скараход». Мультфільмы. **15.45** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 7-ы клас. Аповесць Васіля Быкава «Жураўліны крык». **16.20** «Усё пра ўсё». Праграма для дзяцей. **16.45** Беларускі мерыдыян. Гісторыя і архітэктура старажытных беларускіх дарог. **17.15** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.45** Востры вугал. Прававая праграма па пісьмах тэлегледачоў. **18.15** «Будзьце здаровы». **18.25** Музычны антракт. **18.35** Эканамікст. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.00** Рэферэндум: шчырая размова. **19.35** «Трапічная спёка». 5-я серыя. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.15** А. Яфрэмаў і Б. Плотнікаў у мастацкім фільме «Першая сустрэча, апошняя сустрэча». **23.45** Супергол. **0.15** Навіны.

### ГРТ

**11.00** Навіны. **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Мы і рынак». **11.55** «Рускі транзіт». 3-я серыя. **12.55** «Як лісы з курамі пасябравалі». Мультфільм. **13.15** «Брэйн рынг». **14.00** Навіны (з сурдаперакладам). **14.20** «Касмічныя ратаўнікі лейтэнанта Марша». Мультсерыял. **14.45** Квар'ятэ «Вясёлая квампанія» **14.55** Мультытролія. **15.10** Чароўны мір, ці Сінема. **15.40** «Элен і хлопцы». **16.05** ...Да шаснаццаці і старэй. **16.30** «Вакол сусвету». Па старонкам перадачы «Клуб падарожнікаў». **17.20** «Новая ахвяра». **18.10** Гадзіна пік. **18.35** «Адгадай мелодыю». **19.00** «Тэма». **19.45** «Спакойнай ночы, малышы!» **20.00** Час. **20.35** Праграма перадач. **20.40** Анатоль Папанаў і Валерый Прыёмыхаў у фільме «Халоднае лета пяцьдзесят трэцяга...» **22.35** Хакей. Еўраліга. ЦСКА — «Вена» (Аўстрыя). 2-й і 3-і перыяды. **0.05** «Пятніца, 13». **1.05** Праграма перадач.

### Расія

**6.00** Ранішні экспрэс. **6.25** Па дарозе на працу. **6.35** «Мак і Матлі». Серыял. **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Весткі. **7.20** Ранішні экспрэс-2. **7.50** Экспавеснік. **8.00** Рэтра-шлягер. **8.25** Дарагая рэдакцыя... **8.55** «Санта-Барбара». **9.50--10.20, 23.25** Тавары — поштай. **16.20** Блак-нот. **16.35** «Чэленджэрс». Серыял для падлеткаў. **17.05** Тэлечасопіс «Здароўе». **17.15** Тры стагоддзі — тры гісторыі. **17.45** Надзвычайны канал. «Анатомія падзей». **18.15** Лідэр-прагноз. **18.40** Асабліва важныя персоны. **19.30** «Санта-Барбара». **20.30** Раз у тыдзень. **21.00** Надвор'е. **21.05** Мужчына і жанчына. **21.45** Ціхі дом. Праграма С. Шолахава. **22.25** Начное жыццё гарадоў свету. **23.35** Музыка ўсіх пакаленняў. **23.50** Хто на што здатны. **0.05 — 1.00** Гарачая дзесятка.

### Санкт-Пецярбург

**11.55, 14.00, 16.55, 18.55, 23.25** Інфарм ТБ. **12.10** «Партрэт жанчыны». Серыял (Бразілія). 1-я серыя. **13.10** Тэрмін адказу — сёння. **13.35** Парады садаводам. **13.45, 20.45** Тэлеслужба бяспекі. **14.10** «Дэмпсі і Мейкпіс». Серыял. **15.00** «Адысея Аляксандра Вярцінскага». Тэлефільм. Фільм 1-ы. **16.10** Тата, мама і я — спартыўная сям'я. **16.40** «Інспектар Гэджэт». Мультсерыял. **17.05** «Паласатая музыка», «Там, дзе жыве Павуціныч». **17.35** Паказвае Ленінградская АТК. **18.40** Вялікі фестываль. **19.15** Спорт. **19.20** «Партрэт жанчыны». Серыял (Бразілія). 1-я серыя. **20.20** Формула згоды. **21.00** Спартыўны агляд. **21.10** «Дэмпсі і Мейкпіс». Серыял. **22.00** Падзея. **22.15 — 23.30** «Раман імператара». Маст. фільм (Беларусь). 1-я серыя.





*Віншуем з 50-годдзем генеральнага дырэктара адкрытага акцыянернага страхавога таварыства «Багач» Пятра БАБАРЫКУ.*

*Здароўя і ўдачы ў жыцці Вам, паважаны Пётр Андрэевіч!*

## УСМЕШКІ МАСТАКА

У мінулым годзе на старонках «Звязды» былі ўпершыню апублікаваны карыкатуры Марыны Гарэлавай.

Тэмы, якія закранае Марына, вельмі розныя, і ў гэтым вы ўжо мелі магчымасць пераканацца. На гэты раз мы змяшчаем серыю карыкатур адной тэматычнай накіраванасці — «сардэчнай».












*У маіх сяброў — шчырых, надзейных, сумленных — юбілеі. Акадэміку, доктару філасофіі Аляксандру АЛПЕЕВУ — пяцьдзесят, журналісту Пятру БАРАНОЎСКАМУ — шэсцьдзесят. Віншую, зычу шчасця, шмат гадоў жыцця. Няхай беражэ вас Бог! А новых вышынь мы дасягнем разам!*

**Ваш Анатоль МЯСНІКОЎ.**



*36,6°*

## Жанчыны губляюць валасы

**Існуе цэлы шэраг магчымых прычын страты валасоў. Дыетолагі пераконваюць, што да гэтага прыводзіць няхватка вітамінаў В і С, а таксама цынку, жалеза і сульфуру ў вашым рацыёне. Таму некаторыя дыеты замест жаданай страты вагі могуць скончыцца стратай валасоў. Стрэсы таксама не спрыяюць іх трываласці. Узмоцненае іх выпадзенне на працягу больш чым два тыдні суправаджае траўмы і шокі. Аднак не варта празмерна засяроджвацца на гэтым, паколькі акрамя новага стрэсу вы нічога не даб'яцеся.**

Процізачаткавыя сродкі і цяжарнасць таксама могуць недабратворна адбівацца на стане валасоў. Часовая іх страта амаль заўсёды супадае з месячнымі перыядамі. Калі прыём процізачаткавых сродкаў прыводзіць да выпадзення валасоў, трэба абавязкова пракансультавацца са сваім лечачым урачом. У некаторых выпадках гэтыя сродкі могуць, наадварот, стымуляваць рост валасоў. А вось цяжарнасць — гэта, як правіла, самы рызыкоўны перыяд. На працягу ўсёй цяжарнасці ў арганізме вельмі высокі ўзровень гармону прагестэрону, які перашкаджае нармальнаму працэсу змены валасоў. Затое пасля родаў, калі яго ўзровень зніжаецца да нормы, усе валасы, якія падлягалі абнаўленню на працягу 9 месяцаў, выпадаюць за вельмі кароткі прамежак часу.

Працяглыя і кароткачасовыя захворванні таксама адбіваюцца на стане валасоў, гэтак жа як і некаторыя лекавыя прэпараты. Калі вы заўважыце страты, звярніцеся да ўрача. Алапатыя — гэта захворванне, якое прыводзіць да поўнай страты валасоў на нейкім участку ці на ўсёй галаве. Яго лячэнне звязана з абавязковымі медыцынскімі працэдурамі і патрабуе ўмяшання ўрача-трыхолага.

**ШТО РАБІЦЬ?**

- Масаж паляпшае кровазварот скуры галавы. Уласна кажучы, для росту валасоў масаж больш эфектыўны, чым любыя ласьёны. Проста пакладзіце пальцы на галаву і мяккімі кругавымі рухамі масіруйце скуру падушачкамі пальцаў.
- Медыцынскія прыборы, якія выкарыстоўваюць мікратокі, могуць дабратворна ўздзейнічаць на рост валасоў, паколькі таксама паляпшаюць кровазварот. Імі могуць быць аснашчаны і касметычныя салоны і трыхалагічныя клінікі.
- Дабаўце ў сваё меню вітаміны і мінеральныя рэчывы. Напрыклад, піўныя дрожджы і прарослая пшаніца надзвычай багатыя вітамінам Е.
- Карыстайцеся гелямі, укладачнымі ласьёнамі і мусамі як сродкамі, якія надаюць прычосцы аб'ём. Існуюць і спецыяльныя сродкі для валасоў, якія абвалакваюць іх тонкай плёнкай, з-за чаго яны выглядаюць больш тоўстымі.
- Трымайце валасы ў максімальна добрым стане. Адмоўцеся ад хімічнай завіўкі і афарбоўкі, а таксама сачыце, каб валасы не перасыхалі.
- Аддайце перавагу кароткай стрыжцы каскадам, пакуль праблемы з выпадзеннем валасоў не скончацца. Доўгія валасы будуць здавацца на макушцы яшчэ больш тонкімі, таму што будуць выраўноўвацца пад цяжарам уласнай вагі.
- Не карыстайцеся пашкоджанымі і вельмі густымі грабянцамі для валасоў. Расчэсвайце валасы вельмі старанна і акуратна.
- Калі вы вельмі пакутуеце з-за страты валасоў, не саромцеся карыстацца накладнымі хвосцікамі ці коскай. Але і ў гэтым выпадку будзьце акуратнымі, паколькі заколкі і невідзімкі могуць пашкодзіць вашы і без таго рэдкія валасы.
- Калі валасы губляюць бляск і мяккасць, намачыце іх і нанясіце на іх сумесь з яечнага жаўтка і кропелькі аліўкавага алею. Патрымайце 15 хвілін і змыйце. Яшчэ лепш абгарнуць галаву фольгай — пажыўная маса будзе ўсмоктвацца лягчэй.

**ЯК ЗБЕРАГЧЫ СКУРУ ПРЫГОЖАЙ**

- Каб пазбегнуць карычневых плямаў на руках, працірайце рукі лімонным сокам.
- Калі скура лушчыцца, трэба папярэдне працерці распараны твар махровай лазневай пальчаткай. Пасля такой працэдуры крэм будзе лягчэй пранікаць, а твар стане свяжэйшым і маладзейшым.
- Калі скура на руках сохне і з'яўляюцца трэшчынкі, намажце на рукі тоўсты слой крэму і надзеньце на ноч баваўняныя пальчаткі.


ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.



*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*





Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94.430. Індэкс 63850.
Зак. № 6908.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12